
Семяноўцы 380! ➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Партнёрскі форум ➔4

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 21 (3028) Год LIX | Беласток, 25 мая 2014 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Свята царкоўнай музыкі

**У XXXIII Міжнародным фестывалі «Гайнаўскія дні царкоўнай музыкі», які праходзіў у галоўным у Свята-Троіцкім саборы ў Гайнаўцы з 11 па 17 мая, прынялі ўдзел выканаўцы з Польшчы, Беларусі, Украіны, Расіі, Сербіі, Грузіі, Францыі і Ізраіля. Разнароднасць царкоўных твораў, прэзентаваных на розных мовах, стала адным з галоўных козыраў сёлетняга фестывалю, які ў Гайнаўцы лічыцца святам царкоўнай музыкі. Падчас інаўгурацыйнага канцэрта, конкурсных слуханняў і гала-канцэрта збіраліся аматары царкоўнай музыкі з Гайнаўкі, Беласточчыны, Польшчы і замежжа, каб паслухаць царкоўны спеў на высокім мастацкім узроўні. З музыкай сёлетніх выканаўцаў можна было пазнаёміцца таксама ў час суправаджаючых фестываль мерапрыемстваў, перш за ўсё падчас вялікага фальклорнага канцэрта ў Асяродку лясной адукацыі «Ягелонскае» ў Белавежскай пушчы.**


Вялікае ўражанне на гайнаўскай публіцы зрабіў сваёй адметнасцю хор «Іалоні» з Тбілісі (Грузія)

Падчас сёлетняга гайнаўскага фестывалю, які праходзіў пад ганаровым патранатам прэзідэнта РП Браніслава Камароўскага і па благаславенстве мітрапаліта варшаўскага і ўсяе Польшчы Савы, выступілі 24 конкурсныя выканаўцы і 2 мінулагоднія лаўрэаты ў час інаўгурацыйнага канцэрта — хор Кафедры св. Марыі Магдаліны ў Варшаве і хор Люблінскага каталіцкага ўніверсітэта імя Яна Паўла ІІ. Царкоўны спеў на фестывалі слухалі шматлікія святары і іерархі — мітрапаліт Сава, архіепіскап віцебскі і аршанскі Дзмітры, мітрапаліт афінскі Нікалаас, епіскап сямятыцкі Георгій і епіскап супрасльскі Грыгорый, амбасадары і дыпламаты некаторых краін, парламентарыі, прадстаўнікі ваяводскіх улад, самаўрадаўцы і прадстаўнікі ўстаноў — спонсараў мерапрыемства. Дырэктар фестывалю мітрафорны протаіерэй Міхаіл Негярэвіч удакладніў, што падчас гайнаўскага мерапрыемства спявалі звыш 700 чалавек з васьмі краін.

— Трыццаць трэці раз спатыкаемся падчас гайнаўскага фестывалю, які глыбока ўвайшоў у нашую свядомасць і прыцягвае шмат любіцеляў царкоўнага спеву. Царкоўны спеў лечыць турботы душы, узбагачае людзей і ўзмацняе любоў... Цяжка без фестывалю ўявіць сабе маёвыя дні ў Гайнаўцы, — сказаў мітрапаліт Сава пасля малебна перад адкрыццём фестывалю.

— Змест царкоўнага спеву нясе прыгожасць, якой цяжка супрацьстаяць. Гэта гарачая малітва, выяўленая словам і музыкай. Узнікае з натхнення Святога Духа, асвячаючы выканаўцаў і слухачоў. Для адных і другіх царкоўная музыка — спеў душ, якія ўзносяцца да Госпада, — заявіў айцец Міхаіл Негярэвіч, дырэктар фестывалю.

— Чарговы раз спатыкаемся ў Свята-Троіцкім саборы, каб хваліць Бога прыгожым спевам, цудоўнай малітвай і перажываць вялікае здарэнне, важнае ў маштабе ваяводства, краіны і свету. Аб велічыні фестывалю сведчаць яго патроны, прэзідэнты РП Аляксандр Кваснеўскі і Браніслаў Камароўскі, — гаварыў гайнаўскі бурмістр Ежы Сірак, які адкрыў фестываль.

Конкурсныя слуханні пачаліся з выступаў вясковых прыхадскіх хароў з Беласточчыны. Удала запрэзентаваліся з працейшымі і больш складанымі творамі царкоўнай музыкі праваслаўныя хары з Ласінкі (заняў І месца), Боцькаў (ІІ месца), Вэрстока (ІІІ месца) і Белавежы (вылучэнне). Публіка і ўдзельнікі гарадскіх парафіяльных хароў станоўча ацанілі вясковых выканаўцаў. Удзел прыхадскіх хароў з Беласточчыны вельмі важны, бо дае харыстам магчымасць параўнаць свой спеў з іншымі выканаўцамі і стымул для павышэння выканаўчага ўзроўню.

Прыстойна і з цікавым рэпертуарам запрэзентаваўся хор праваслаўнага прыхода Бялыніцкай іконы Божай Маці з мясцовасці Бялынічы ў Рэспубліцы Беларусь. Асаблівае ўражанне на сабраных зрабіў выкананы па-беларуску твор Уладзіміра Прыходзькі «Плашчаніца».

— Уладзімір Прыходзька — наш кампазітар, таму мы рашыліся выканаць яго твор падчас фестывалю, — заявіла Ірына Косціна, дырыжор хору з Бялыніч.

З цікавым рэпертуарам у катэгорыі гарадскіх прыхадскіх хароў выступіў хор праваслаўнага прыхода з Ганцавіч у Беларусі. Па-мастацку выступіў і заняў першае месца ў гэтай катэгорыі выканаўцаў Кафедральны хор Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы, з якім займаецца іерэй Павел Коршак. Апярэдзіў ён праваслаўныя хары Успенскай царквы ў Бельску-Падляшскім і прыхода святога вялікамучаніка Юрыя ў Беластоку, якія таксама выступілі на высокім узроўні і занялі раўнапраўныя другія месцы.

— Многа хароў выступіла на высокім узроўні і таму мне, як харысту, складана ацаніць выступленне нашага гайнаўскага хору. Для мяне выступ на фестывалі гэта асаблівае перажыванне, бо хочацца, каб захаваць малітоўнасць і заспяваць перад публікай як мага найлепш. Цікава было, таксама, паслухаць іншых выканаўцаў, напрыклад з Грузіі, — сказаў шматгадовы гайнаўскі харыст Юры Рыгаровіч.

Трэцяе месца ў катэгорыі гарадскіх прыхадскіх хароў заняў дзіцяча-маладзёжны хор з Калінінграда ў Расіі. Вылучэнні з-за сваёй адметнасці атрымалі хары з Францыі і Грузіі. Цікава запрэзентаваліся французы, якія развучылі творы на царкоўнаславянскай мове з дапамогай зробленай лацінкай транскрыпцыі. Свецкі хор «Борысфен» з Парыжа заснавала Лідзія Мыкаленка, дачка ўкраінскіх эмігрантаў, якія ў канцы ІІ сусветнай вайны ўцяклі перад саветамі ў Францыю. Патрапіла яна захапіць карэнных французаў царкоўным спевам, духоўнасцю праваслаўя і заахвоціць свецкі хор выступаць на царкоўнаславянскай мове. Дырыжор хору «Іалоні» з Тбілісі Ніно Нанэісгвілі сказала мне, што зараз у сталіцы Грузіі ёсць толькі дзве царквы, дзе падчас багаслужбаў спяваецца на царкоўнаславянскай мове. У іншых праваслаўных храмах Тбілісі багаслужбы адбываюцца на грузінскай мове, харысты спяваюць з даўнімі напевамі, так, як выступіў грузінскі хор падчас гайнаўскага фестывалю. Сваім адметным спевам зацікавілі сабраных у гайнаўскім саборы спевакі хору «Шыр Хадаш» з Ізраіля, якія атрымалі спецыяльную ўзнагароду.

Першае месца ў катэгорыі іншых хароў заняла вакальная група Музычнага калектыву Інстытута пагранічнай службы з Мінска, якая паўстала толькі ў 2012 годзе і выступае з аркестрам. Выконвае яна перш за ўсё ваенныя і народныя песні. Папоўніўшы рэпертуар царкоўнымі творамі, група дабілася ўжо перамогі на фестывалях у Беларусі.

— Царкоўных твораў у нас нямнога, бо мы яшчэ маладая група. Але стараемся выконваць іх як мага найлепш, — сказаў мне дырыжор вакальнай групы Аляксандр Важнік.

Другія раўнапраўныя месцы ў катэгорыі іншых хароў занялі Хор духавенства Беластоцка-Гданьскай праваслаўнай епархіі ў Беластоку і беларускі Дзіцяча-маладзёжны хор «Ліра» з Мінска. Вялікае ўражанне на публіцы зрабілі цудоўныя галасы беларускіх дзяўчат з Сярэдняй школы № 66 у Мінску. Хор гэты заняў першае месца ў 2007 годзе на гайнаўскім фестывалі і перамагаў на міжнародных фестывалях у Літве і Бал-

працяг ☞11





# Законы жанру

Калі ў першым акце п'есы на сцяне вісіць стрэльба, то ў трэцім яна абавязкова стрэльне. Такі закон жанру. Гэта ведае кожны тэатрал і кожны больш-менш дасведчаны глядач. Інакш няма логікі бачанага. Калі стрэльбу павесілі на сцяну, то для нечага ж гэта зрабілі. І зрабілі наўмысна ды абдумана.

Дасведчаны глядач заўсёды ўцяміць, навошта тая стрэльба на сцяне вісіць, і калі прыйдзе яе час заявіць пра сябе. А вось для чалавека, які трапіў у тэатр выпадкова, стрэл будзе нечаканасцю, бо ўвесь гэты час ён стрэльбы або не заўважаў, або лічыў, што яе павесілі хіба што для інтэр'еру. Маўляў, такі эстэтычны густ у пастаноўшчыка. Але ж гэтак не бывае, бо ёсць бюджэт п'есы, дзе распісана што і навошта трэба набыць. І выкідаць грошы проста, каб задаволіць нечыя капрызы, ніхто не будзе. Ёсць яшчэ безліч рэчаў ад сцэнару да пастаноўкі, калі ўсе пачнуць пытацца, навошта гэтая цацка перашкаджае засяродзіцца на галоўным і вечна мазоліць вочы. І ўвогуле, кожная рэч мусіць мець сваё значэнне і прызначэнне. На гэтым грунтуецца логіка і сімвалізм творчасці.

А вось калі гэты сімвалізм перанесці на рэальнае жыццё, то можна канстатаваць той факт, што там усё гэтак жа як у тэатры. Адзін у адзін. Творчасць жа бярэцца з жыцця. Нездарма мудры рэжысёр прамовіў фразу, якая стала крылатай не толькі сярод бамонду: „Усё жыццё тэатр, а людзі ў ім акторы".

Дык вось пра жыццё. Калі на Украіне ў Крыме вісела стрэльба ў выглядзе расійскіх караблёў і іншых навейшых вынаходніцтваў знішчэння чалавечага жыцця, то некалі ж яна мусіла стрэліць. Або ў адпаведным і спланаваным па сцэнары акце, або ў выглядзе імправізацыі. Або сама па сабе. Нездарма ж народ падмеціў, што зрэдку нават палка страляе. І яна стрэліла. Стрэліла так, што рэха пайшло па ўсім свеце.

Калі ля межаў Украіны стаяць расійскія танкі ды верталёты, то для нечага ж іх там паставілі. І яны мусяць выканаць тую ролю, якую адвёў ім рэжысёр.

Калі ў Беларусі з'яўляецца ўсё больш расійскіх самалётаў ды вайскоўцаў, то сцэнар гэтай да прымітыўнасці простай п'есы прадказаць не падаецца цяжкім.

Для недасведчаных гледачоў, сярод якіх, на жаль, даволі багата і айчынных, і сусветных палітыкаў, гэты стрэл стане чарговай нечаканасцю, бо яны ўжо доўгі час гуляюць у палітыку дзеля забавы або кар'еры, забыўшыся, што палітыка — найадказнейшая, і найцяжэйшая праца. Палітыка гэта місія, служэнне свайму народу, сваёй краіне, а ва ўмовах глабалізацыі і ўсяму чалавецтву. Бітва дабра са злом не церпіць дылетантаў.

Няўжо тады, калі расійскія маракі „Курска" пасылалі слабеючымі рукамі сігналы „SOS" з марскога дна, а расійская ўлада не дапусціла замежных выратавальнікаў дапамагчы сваім суайчыннікам, няўжо ўжо тады было незразумела, што за ўлада ўсталявалася там і чым для той улады з'яўляецца чалавечае жыццё ды чалавечы лёс. Не цяжка было спрагназаваць яе далейшыя дзеянні. Маючы самую вялікую і неверагодна багатую зямлю, яна не стала клапаціцца пра дабрабыт сваіх людзей. Яна ўкладвала шалёныя сродкі не ў рэфармаванне эканомікі, а ва ўзмацненне войска. Ну а паколькі знешняя палітыка гэта ўсяго толькі працяг унутранай, яна стварала і фінансавала марыянетачныя таталітарныя рэжымы па ўсім свеце, падтрымлівала іх і ратавала. Ну, а зараз пайшла ў адкрыты наступ. Стрэльба не проста так вісела на сцяне.

Не цяжка прадказаць далейшыя падзеі. Стрэльба шматзарадная, шматдульная, і стрэліць мусіць кожнае дула. Дасведчаныя гледачы ў выглядзе журналістаў, аналітыкаў, некаторых палітыкаў ужо сарвалі голас, папярэджваючы пра гэта чалавецтва і тых вялікіх, уплывовых ды надзеленых уладай людзей, якія прымаюць рашэнні. Тыя яшчэ не могуць уцяміць, што такое законы жанру. Значыць, прыйдуць цяжкія часы не толькі для Украіны.

Праўда, і агрэсараў нельга назваць дасведчанымі ў тэатральнасці жыцця, бо па законах усё таго ж жанру іх параза непазбежная. Пасля, у канцы, але абавязкова.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Пусты экран



«Чалавек — як пісаў амерыканскі, дзевятнаццацівечны філосаф Ральф Уолда Эмерсан — гэта тое, аб чым думае на працягу ўсяго дня». Ёсць нядзельны вечар, калі пішу гэтыя словы. А пачаў я пісаць іх раніцай. Прыблізна ў 10:00 прысеў да камп'ютара. Незадоўга да дванаццатай я зрабіў перапынак на кавапіццё. Думка, якую да гэтага часу я запісаў у камп'ютары, змяшчалася ў трынаццаці сказах, што я старанна падлічыў. Чытач, дазволь, што іх не абнарoдую, таму што мне сорамна ад страчанага часу. Скажу толькі, што занепакоіў мяне першы ініцыюючы сказ, багаты ў дзеепрыметнікі. Ён складаўся з трынаццаці слоў. Спачатку я хваляваўся паўтараючайся трынаццаткай, бо мяне турбуюць дакучлівыя ідэі званыя трыскаідэкафобіяй. Слоўнік замежных слоў і чужамоўных фраз пад рэдакцыяй неацэннага Уладзіслава Капалінскага тлумачыць гэтае слова як страх перад нешчаслівым лікам трынаццаць. Са шматлікіх маній, якія заблытваюць мяне з дзяцінства, успомню яшчэ аб параскевідэкатрыяфобіі — страху ад трынаццатага дня месяца, які прыпадае на пятніцу. У пятніцу, калі яна будзе 13 чысла месяца, я выключаюся як чалавек і грамадзянін: вымаю батарэйку з тэлефона, зачыняю наглуха дзверы хаткі, хаваюся пад ложак і раблю выгляд, што мяне няма. І так з раніцы. На шчасце трынаццаткавая апантанасць запісаных слоў здарылася са мной сёння, у нядзелю, ды і 18 мая. З кубкам дымнай кавы я вярнуўся да сваёй працы. Нахіліўся над першым, ужо згаданым сказам. Перш за ўсё, я сцёр у ім апошняе, трынаццатае слова, якое выглядала гэтак — «праклятыя!». На жаль, усе тыя словы перад ім гублялі свой семантычны імпэт. Я не мог замяніць іх іншымі. Сэнс маёй думкі аказваўся выключна ў гэтым і не іншым граматычным складзе, у такім і не іншым семантычным значэнні. Я ўсё ж упарта рухаў словы запісаныя ў сказе, або крэсліў адно, замяніўшы яго іншым, ці вяртаўся да арыгінальнага запісу; увесь у адчаі.

Творчы сказ, незалежна ад волі аўтара, захоўвае ўнутраную эквівалентнасць, як у Псалме 23, перакладзеным Ісаакам Цыльковым. Дарэчы, Цылькоў, выдатная постаць заслужаная для польска-яўрэйскай культуры, пераводзіў Псалмы з іўрыту на польскую мову больш за 30 гадоў. Першыя пераклаў у 1883 годзе. Апошнія на працягу некалькіх гадоў да сваёй смерці ў 1908 годзе. На яго пахаванне прыйшлі тысячы габрэяў і хрысціян. Таксама многія беларусы, пражываючыя ў тагачаснай Варшаве. А Псалом 23 абвяшчае: «Бог мой пастыр, хапае мне ўсяго». Гэта, вядома, прыклад сіметрычнай раўнавагі ў сказе. Прыцягвае мяне больш баланс асіметрычны, як у перакладзе Псалма 142 таго ж самага перакладчыка: «Разважанні Давіда, калі заставаўся ў пячоры; малітва». Звярніце ўвагу на тое, як выдатна раўнаважыцца ў гэтым сказе пяць слоў перад адным, які ёсць сюжэтам сам па сабе — малітва. Язычком у шалях тут з'яўляецца кропка з коскай, дакладней яе метафізічная гравітацыя, якая абодва ілюзорна няроўныя члены сказа ставіць у сіметрычным парадку; выдатна спалучае і заадно творча раздзяляе. Без сумневу, менавіта дзякуючы Цылькову я выявіў важнае для структуры запісу значэнне кропкі з коскай, як і раней, дзякуючы Гарацыю, значэнне коскі.

Але што я тут пра кропкі з коскай, коскі, метафізікі... Пункт семантычнага цяжару ў дасканалым сказе абмінае свой сіметрычны цэнтр і заўсёды змяшчаецца там, дзе папярэдняя частка, прычынна-следчая, ідэальна ўраўнаважвае другую частку з яго выніковым значэннем. На жаль, мой сказ, пра які я згадваў раней, не быў выдатным. Тым больш, што ў пісьменніцкім амоку я сцёр усе наступныя. Нягледзячы на гэта, я працаваў над астаўшымся сказам аж да 21 гадзіны. Безвынікова. Мой экзістэнцыяльны гарызонт, вызначаны на творчыя мэты, быў скарочаны да грубага хамскага гневу. Усё тое, што я запісаў у той дзень, я незваротна сцёр. Дык у мяне няма доказаў на тое, што я думаў. І аб чым я ўвесь дзень думаў? А нагадаю, што чалавек — паводле Эмерсана — ёсць тое, аб чым думаў увесь дзень. Дык што я такое, калі вырачваюся ў пусты, пульсуючы самотны курсар экрана камп'ютара?

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Падай свой праект!

Як я ўжо тут пісаў, у бліжэйшы час у Беластоку ў другі раз жыхары змогуць напрамую далучыцца да планавання гарадскога бюджэту. У рамках так званага грамадзянскага бюджэту (удзельнага) у іх распараджэнні знаходзіцца 12 мільёнаў злотых. Беластачане змогуць паказаць да трох праектаў вялікіх і трох малых праектаў і, вядома, раней могуць іх заявіць. Рэалізаваныя будуць тыя, якія атрымаюць найбольшую колькасць галасоў аж да вычарпання пулькі сродкаў. З 12 траўня пачаўся першы этап падрыхтоўкі па прадстаўленні праектаў у рамках бюджэту на 2015 год. Прапановы інвестыцый могуць заяўляць беластачане, якія маюць правa голасу і занесены ў рэестры выбаршчыкаў у сталіцы Падляшскага ваяводства. Аб тым, якія ідэі будуць рэалізаваныя, вырашыць усеагульнае галасаванне. Важна адзначыць, што да 2 чэрвеня таксама можна пракансультавацца (таксама і праекты) са службовымі асобамі. Працаўнікі гарадской управы высветляць сумневы адносна, між іншым, магчымасці рэалізацыі праекта, яго размяшчэння і — увага — ацэнкі выдаткаў. Дзяжурства будзе адбывацца ў будні дні (панядзелак — пятніца) у гадзінах 8.00-18.00 у Гарадской управе па вул. Слонімскай, 1, у зале нумар 3 (на першым паверсе). Таксама на сайце www.bialystok.pl можна знайсці спіс ацэнак выдаткаў інвестыцый. Зыходзячы з гэтага, можна вызначыць прыблізны кошт праекта.

Што трэба зрабіць, каб прадставіць праект? Па-першае, падрыхтаваць сваю заяўку. Тады атрымаць падтрымку (сабраць подпісы) дваццаці жыхароў Беластока. Затым трэба прадставіць праект да 2 чэрвеня 2014 года. Заўвага: у грамадзянскі бюджэт (удзел) можа прадставіць толькі інвестыцыйныя праекты: вялікія (па горадзе) і малыя (у мікрараёнах), якія змяшчаюцца ва ўсласных задачах гміны або павета. Яшчэ адна засцярога, якую абвясцілі працаўнікі магістрата: прапанаваныя праекты павінны быць звязаныя з інвестыцыямі, якія ўваходзяць у кампетэнцыю горада Беластока, і могуць быць рэалізаваныя выключна з выкарыстаннем муніцыпальнай маёмасці, без запазычанасці трэцім асобам. Акрамя таго, інвестыцыі могуць быць размешчаны толькі на нерухомасцях з выключнай уласнасцю горада Беластока, напрыклад, не кааператыўных або прыватных. Рэалізацыя праектаў-пераможцаў павінна (але не мусіць!) адбывацца на працягу аднаго года. Узор заяўкі праекта ў электроннай версіі можна знайсці на сайце: www.bialystok.pl, www.bip.bialystok.pl і ў друкаваным выглядзе ў Агульнай канцылярыі Гарадской управы ў Беластоку, вул. Слонімская, 1; у Дэпартаменце абслугоўвання грамадзян, вул. Браніцкага, 3/5; у Пункце абслугоўвання кліентаў Беластоцкага гарадскога транспарту, вул. Ліпавая, 16; у Цэнтры супрацоўніцтва НДА Дэпартамента грамадскіх спраў, вул. Святаянская, 22/1. Само галасаванне (пачынаецца 20 чэрвеня) будзе ажыццяўляцца ва ўстаноўленых пунктах. Галасаванне таксама будзе праводзіцца ў электронным выглядзе. Поўнае апісанне праектаў будзе даступнае на вэб-сайце www.bialystok.pl і ў пунктах, дзе будзе адбывацца галасаванне. У галасаванні могуць удзельнічаць таксама студэнты беластоцкіх вучэльняў. Дастаткова таго, што ў дзень галасавання можна будзе іх знайсці ў рэестры выбаршчыкаў у Беластоку. Галасаваць можа таксама непаўналетняя асоба, якая да пачатку галасавання дасягне 16-гадовага ўзросту і мае прапіску ў Беластоку. Інтэрактыўная карта для галасавання будзе даступная на вэб-сайце са спісам усіх праектаў. Каб голас быў важным, неабходна пазначыць сваё імя і прозвішча, асабісты нумар PESEL, а таксама прыняць заяву адносна апрацоўкі персанальных даных.

Заахвочваю да прадстаўлення праектаў, а раней да іх кансультацыі. У мінулым годзе па працэсуальных падставах было адхілена больш за сто заявак. Нагадаю, што ў першым выданні беластоцкага грамадзянскага бюджэту перамог праект будаўніцтва бульвараў св. Іаана Багаслова побач мікрараёна Таварыства сацыяльнага будаўніцтва.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Месца для жыцця. 380 гадоў Семяноўцы

**На святкаванні 380 гадавіны вёскі сабралася ў Семяноўцы 11 траўня больш як на фэсце на Юр'я! Прыбылі ў царкву святога Юрыя Пераможцы і сямяне, і жыхары навакольных вёсак, у большасці прыхаджане царквы, дзе настаяцелем больш паўстагоддзя служыць айцец Мікалай Шэбелян. Айцец Мікалай падрыхтаваў таксама свой даклад, пералічыўшы між іншым «армію» ахрышчаных ім, часам ужо таксама пасівелых прыхаджан (было ў 1957 г. іх больш за 1400 асоб), а цяпер тысяча легла на пагорак за Пяшчаткай. Бацюшка памятае ў твар кожнага з іх, і па імі-прозвішчы, і па вясковай мянушцы. Першымі леглі на новым могільніку між іншым ягоны сынок Георгій і Кацярына з Медзвядзёў, Олесева маці...**



У адноўленай святліцы паўспаміналі, пачынаючы ад гісторыі (Юры Шыманюк падрыхтаваў даклад разам з картамі), аглядаючы здымкі і разгадваючы на іх сфатаграфаваных не толькі людзей. Конкурс-выстава выклікала хваляванне і многа радасці. Фільм пра могілкі, даўгаваты, усхваляваў і навёў одум. А супольная пачостка (далучыліся да яе новыя жыхары Семяноўкі, падрыхтаваўшы адмысловы торт) кончылася далёка ў ноч.

— Вёска даўней мела цікавую планіроўку: складаецца з трох частак, адна да адной пад прамым вуглом. У цяперашні час пашырана яшчэ на чарговыя вуліцы. Найпрыгажэйшы фрагмент — вуліца Ліпавая, пасярэдзіне Семяноўкі, бягучая з поўначы на поўдзень, раней брукаваная, з прахалодным шпалерам ліп. Сёння вуліца заасфальтавана, а ліпы працярэбленыя. Амаль да канца XX стагоддзя, да ўвядзення назваў вуліц, жыхары выкарыстоўвалі мясцовыя назвы асобных частак Семяноўкі. Цяперашняя вуліца Школьная, паміж перасячэннем вуліцы Ліпавай да ватыўнага крыжа на выхад у Семенякоўшчыну называлася Новае Сяло. Яе фрагмент да крамы Ярашукоў, пры водаахоўным вале — Усадзьба. Перакрыжаванне вуліц Ліпавай і Школьнай называлі Грудок. Вуліца Ясянёвая была Гулачкай, а Польная — Булавай Горкай. Вуліца Ціхая была Пазаклунямі. Некалькі будынкаў і пляц былога сельскагаспадарчага гуртка, побач жвіровай дарогі, што вядзе да могілак, называліся Пашчатка (Пяшчатка), — Юрка Шыманюк прыгадвае старыя назвы. Семяноўка

**была заснавана**

да 1634 (1632?) года як вёска і фальварак у маёнтку князёў Масальскіх (як паселішча, верагодна, існавала значна раней). У гэты перыяд мела падвойную назву «Siemianówka alias Narewka», таму што яна належала да маёмасці Нараўка. Праз некалькі гадоў быў пабудаваны тут двор, які ў 1666 годзе быў перададзены яго ўладальнікам Станіславам Карпам Войцеху і Магдаліне Пшыходзкім. У той час двор быў вельмі сціплы: „dwie stare izby z alkierzem, sienią i boczną komorą, oraz mocno podupadłe zabudowania gospodarcze: dwa świrny — jeden przy bramie wjezdnej, drugi pomiędzy budynkiem mieszkalnym, a jednoizbowym budynkiem stojącym przy bramie, służącym zapewne za mieszkanie dla odźwiernego. Naprzeciwko dworu stały dwie chaty rudników, niewielka karczma dla wygody rudnickiej oraz kuźnie". Гэтае апісанне змяшчае двор на тэрыторыі цяперашняй часткі Семяноўкі, што называецца Усадзьба, і якая часткова знаходзіцца пад вадой. На карце з 1932 г. можам убачыць рэшткі Усадзьбы: рыбную сажалку (тут названа кузняй) разам з каналам, спалучаючым яе з ракой Падрэчкай, і незавершаны канал, які меў злучаць яго з ракой Нарвай каля Біндзюгі, даязную дарогу да двара, а таксама штучныя насыпы недабудаваных дарог у напрамках на ўсход і захад.

Вёска Семяноўка налічвала тады дзесяцёх гаспадароў, якіх палі і лугі ляжалі ў трох урочышчах: Пяшчатка (Пашчатка), Задражок, Рудніцкі Кут. З часам уключаны былі землі ўрочышча Марушка ды лугі: Дрорышча, Балото, Пакосы, Чарнуха, Біндзюга. Цікавінкай з'яўляецца апісанне абавязкаў падданых, якое паходзіць з інвентара з 1666 года: «...z włóki gruntu czynszu złotych cztery, żyta stankow bielskich 4, owsa szanków 4, chmielu solanek 4, kapłunów 4, grzybów szanków 2, orzechów garcy 2, jajek 20, dranic kop 2, łyk wioseł dwie po 30 pęczków w wiośle. Pańszczyzna z 1 włóki — mężczyzna dwa dni z czym każą, z wołami lub końmi, żonka dzień jeden lub mężczyzna za żonkę, gwałty co tydzień, po dorodnym zostawiwszy w domu, do siana lub żniwa, żyta z rozrobienia gruntem. Gruntów od św. Jerzego do św. Marcina stróża tygodniowa znocna, osobliwie białogłowska tygodniowa z półwłóki lub za białogłowską stróże powinni oddać złotych 20 za cały rok całą wsią, to jest z ćwierci do groszy 20 do nającia dziewki lub gospodyni. Pszczela jednak pańszczyzna uszczerzbku mieć nie ma.

На працягу наступных сарака гадоў маёнтак у Семяноўцы крыху падупаў, хоць створаны былі лазня і піваварны завод. У 1703-1706 гадах Ян і Іаанна Масальскія — уласнікі сядзібы — перадалі двор у арэнду Зыгмунту Біспінгу. За гэты час меншы жылы дом і стаяўшы побач хлеў не падыходзілі нават для абнаўлення, рамонту патрабавалі два свіронкі і гумно. У лепшым стане былі лазня і піваварня. Павялічылася колькасць жыхароў. Пацягнула гэта за сабой падзел паўвалочных участкаў на больш дробныя часткі (чвэрткі і васьмухі). На чвэртках гаспадарылі жыхары: Батрук, Кароль, Васіль, Стоц, Кіслы, Ігнацюк, Паўлюк, Яськоў, Савацюк, Матыс, Магроў, Васіль, Матусік, тры браты Данкоўскія, Засім і Лаўрын. На васьмушках: Мацкевіч, Алекса, Дэміст, Аніска. Поўную валоку меў Макс Назарка. Па гэты дзень у Семяноўцы існуюць прозвішчы Кіслы, Ігнацюк, Матысюк (былы Матусік), Засім, Мацкевіч, Аніскевіч і Аніськевіч.

У 1780 годзе вёска была ў маёмасці Нараўкі і належала да біскупа віленскага Ігната Масальскага. З 1787 г. Семяноўка была ў руках Яна Вянгерскага (каралеўскага камергера), якому некаторыя прыпісваюць фундаванне

**мураванай царквы святога Георгія**

Пераможцы, хоць іншыя сцвярджаюць, што царква была пабудавана ў семнаццатым стагоддзі пры Масальскіх або Станіславе Карпе. У 1833 годзе двор у Семяноўцы належаў Лук'яну Эйсманду (прадстаўнік роду з яцвяжскімі каранямі). Перад 1842 г. набыў яго Эразм Злотніцкі, які валодаў ім на працягу многіх гадоў. Належала яму частка маёмасці Семяноўка з фальваркамі Лясная і Хаміншчызна. Астатняя частка належала Міхалу фон Віттарфу.

З 1907 г. адным з самых багатых сялян у Семяноўцы быў Канстанцін Мароз сын Ануфрыя, былы асочнік Белавежскай пушчы. Захаваны цяперашнім жыхаром Семяноўкі Славамірам Кулешам (праўнукам Канстанціна Мароза) акт уласнасці паказвае, што Канстанцін Мароз купіў у 1907 годзе 14,32 гектара зямлі ў Семяноўцы.

**Незалежны прыход**

У 1944 годзе былі прадпрыняты спробы стварыць у Семяноўцы свой прыход. Гэтыя намаганні, аднак, не былі адрасаваныя ўладам Праваслаўнай царквы, а павятовым. Існуе рукапіс ліста ад 12 лістапада 1944 г., напісаны ў Нараўцы, а падпісаны святаром праваслаўнай парафіі ў Семяноўцы а. Раманам Гарустовічам. У лісце, адрасаваным бельскаму старосту, ёсць просьба легалізаваць прыход: „Raport. Przy niniejszym mam zaszczyt przedstawić Panu Staroście odpis uchwały obywateli wsi Siemianówka z prośbą przychylić się do sprawy otwarcia parafii we wsi Siemianówka. Ja urodziłem się 18 listopada 1889 r. we wsi Skupowo, gmina Narewka, a od roku 1910 rodzice kupili ziemię we wsi Leśna, tejże gminy, gdzie posiadam 10 hektarów ziemi. Od roku 1924 do 1930 służyłem w cerkwi narewskiej jako psalmista, diakon i pomocnik proboszcza; do roku 1933 byłem proboszczem we wsi Berszty, powiatu grodzieńskiego, potem znów byłem przeniesiony do m[iejscowości] Narewka na stanowisko proboszcza, którą to posadę pełniłem do 1 sierpnia 1940 r., od którego to dnia ustąpiłem i uszedłem na gospodarstwo do wsi Leśna. 28 sierpnia 1941 r. Niemcy zarekwirowali moją gospodarkę, spalili zabudowania, a mnie bez żadnych środków do życia wywieźli do m[iejscowości] Porozowo, powiatu wołkowyskiego. 17 października 1941 r. Ks. Metropolita Pantelejmon mianował mnie proboszczem do parafii Choroszewicze, powiatu wołkowyskiego, na co posiadam dokumenta. 12 czerwca 1942 r. Biskup Benedykt Bobowski, który teraz uciekł z Niemcami, bezpodstawnie, bez żadnego dochodzenia zwolnił mnie ze stanowiska i ja 2 lata pracowałem z pługiem w rękach. Kilkakrotnie zwracałem się do Biskupa z prośbą o posadę, lecz wrogowie moi, a najwięcej proboszcz narewskiej parafii ks. Andrzej Rutkowski pisał do Biskupa, do niemieckiego Gestapa, że jestem szkodliwy człowiek dla Niemców; Biskup posady mnie nie dawał. Z przyjściem Armii Czerwonej powróciłem do m[iejscowości] Narewka i 28 września pieszo chodziłem do Grodna prosić o stanowisko, lecz w Grodnie Biskupa nie ma i tylko dowiedziałem się, że Władze Duchowne są w Mińsku. 28 sierpnia obywatele wsi Siemianówka poprosili mnie na proboszcza do tej wsi, o tym doniosłem J. E. Ks. Arcybiskupowi w Mińsku raportem z dnia 10 października i prosiłem Błogosławieństwa o pracę na korzyść narodu i Państwa. Odpowiedzi na ten raport póki [co] nie ma. W teraźniejszy czas jestem bez żadnych środków do życia, gdyż ziemia własna 3 lata leżała odłogiem, a zboże i kartofle z tego roku pozostały w Porozowie za granicą. Będąc na stanowisku proboszcza w Narewce w 1934 r. byłem wybrany na członka Rady Gminnej w Narewce i za swoją pracę były Pan Starosta P. Januszkiewicz osobiście mi dziękował. Jako człowieka i Proboszcza zna mnie były Wójt gminy Narewka Teodor Skiepko, zamieszkały w teraźniejszy czas w m[iejscowości] Narew. Przeżyłem swoje młode lat a od roku 1910 w szlacheckiej, katolickiej wsi i dla mnie nie robi różnicy co do człowieka, ani religia, ani narodowość i z wielką chęcią chciałbym pracować dla miejscowego narodu i społeczeństwa. Ks. Roman Garustowicz Proboszcz parafii prawosławnej w Siemianówce". Да ліста была прыкладзена копія пастановы ад 28 жніўня 1944 года, падпісаная больш за сто жыхарамі вёскі Семяноўка:

**„My niżej podpisani obywatele wsi Siemianówka,**

gminy Narewka, powiatu bielskiego i mieszkańcy wsi Babia Góra, Masiewo i Cichowola, tejże gminy, w teraźniejszym czasie zamieszkali we wsi Siemianówka, na ogólnym zebraniu omawiali sprawę parafialną co do otwarcia parafii we wsi Siemianówka. Postanowili. 1. Z powodu dalekiej odległości od cerkwi w m[iejscowości] Narewka — przeszło 10 kilometrów — i z powodu braku obuwia i ubrania ludność wsi zawsze pozostaje bez modlitw, gdyż w Siemianówce tylko dwa razy w roku odbywa się nabożeństwo, otworzyć parafię oddzielną we wsi Siemianówka. 2. Prosić Urząd gminy Narewka i Starostwo Bielskie nie czynić przeszkód co do otwarcia parafii. 3. Prosić Panów Komendantów Sowieckiej Władzy przychylić się do naszej prośby i niniejszej uchwały. 4. Na stanowisko proboszcza parafii do wsi Siemianówka powołać ks. prawosławnego Romana Garustowicza, zamieszkałego w m[iejscowości] Narewka, powiatu bielskiego. Na tym uchwała podpisana"

*(з архіва Юркі Шыманюка)*

31 жніўня 1957 г.заснаваны быў незалежны прыход. Першым настаяцелем — да сёння ажыццяўляючым сваё святарскае служэнне — з'яўляецца Мікалай Шэбелян. Раней царква належала прыходу ў Ляўкове, а пасля ў Нараўцы. У 1970-1972 гг. была выкананая ўнутры паліхромія і ўзведзеная цагляная званіца (старая драўляная была знесена), а затым царкоўны падвор быў агароджаны каменным мурам. Іканастас быў узбагачаны новымі райскімі варотамі.

**Варта ў Семяноўцы**

пабачыць царкву святога Георгія Пераможцы (прыхадскія святы: 6 мая — свята Юр'я і 14 кастрычніка — Пакрова Маці Божай). Мураваную царкву з драўлянай званіцай і агароджай адрамантавалі былі да 1854 г. (хутчэй за ўсё, у 1848 годзе, як відаць на драўляным крыжы перад царквой). У 1894 г. быў зроблены рамонт цэлага храма. На мясцовых могілках ёсць другая мураваная царква — святога Панцеляймона (свята 9 жніўня), узведзеная ў 1984 годзе. Прыхадскія могілкі былі заснаваны ў 1956 годзе, а ў 1981 годзе абведзены бетонным мурам. Штогод 9 жніўня арганізуецца ў Семяноўцы фальклорны фэст, працяг святкавання фэсту Панцеляймона. Падчас фэсту адбываюцца выступленні мясцовых фальклорных калектываў і гуртоў запрошаных з Беларусі.

Мураваная царква была пабудавана ў васемнаццатым стагоддзі (XVII?), а могілкі — у сярэдзіне дваццатага стагоддзя. Вядома, што ў 1869-1956 гадах памерлых з Семяноўкі і ваколіц хавалі на могілках у Нараўцы (спачатку на старым, пасля на новым могільніку). Невядома, дзе хавалі людзей ад будаўніцтва царквы да часу, калі пачалі хаваць іх у Нараўцы. У той час, калі Семяноўка належала прыходу ў Ляўкове, там не хавалі сямян. Вельмі верагодна, што месцам могілак з'яўляўся невялікі пагорак, па другім баку ад чыгуначнага шляху ад станцыі, які быў раскапаны пры будаўніцтве перагрузачнай станцыі ў 1952 г. Работнікі выкопвалі тады труны са шкілетамі. Гэты тэзіс таксама пацвярджае геадэзічная карта з 1932 г., на якой гэтая тэрыторыя не пазначана як ралля, луг ці сядзібныя ўчасткі, а падпісана «Могілкі». Пазначана гэтая тэрыторыя як участак № 155. А на ўчастку № 156 знаходзіцца сучасны могільнік.

У 60-я , 70-я і 80-я гады Семяноўка была вядомая перагрузачнай станцыяй («пшэладункам»), адной з трох найбуйнейшых на ўсходняй мяжы, якая мела нармальныя і шырокія пуці («рускія»). На працягу гэтага часу занятымі былі тут больш за тысячу жыхароў Семяноўкі, Гайнаўкі і суседніх мясцовасцей. Пасля змен у 1989 г. «пшэладунак» падупаў. У цяперашні час адбываецца тут малая адпраўка і перагрузка чыгуначнага транспарту, хаця адкрыты новы — таварны — пагранпераход з Беларуссю. Чыгуначная лінія была запушчана 1 студзеня 1906 года.

Сёння Семяноўка мяняе свой выгляд, перш за ўсё з-за штучнага вадасховішча. Будынак ліквідаванай пачатковай школы-«тысячагодкі» ў 2005 годзеператвораны ў Цэнтр экалагічнай адукацыі. Усё больш і больш гаспадарак удзельнічае ў агратурызме. Пасяляюцца тут людзі, якія шукаюць цішыні і спакою сярод ветлівых людзей, як Антоні Рэмеш, які вельмі дакладзе сваёй працай да юбілейнага фэсту.

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

## «Паланэз-2014» вітаў беларусаў Беласточчыны

У Слоніме, 17 траўня, адбыўся міжнародны фестываль „Паланэз-2014". Праходзіў ён ужо дзесяты раз. У ім прынялі ўдзел 33 музычныя і танцавальныя калектывы з розных гарадоў Беларусі, а таксама з Літвы і Польшчы.

Жыць у Слоніме і не пабываць на фестывалі — проста грэх. Таму з раніцы падаўся я ў цэнтр горада, куды на аўтобусах з'язджаліся госці з Беларусі, Польшчы і Літвы. Каля гасцініцы „Шчара" ўбачыў кіраўніцу слонімскага ансамбля „Грымата" Валянціну Шаронаву, якая суправаджала гасцей з Беласточчыны ў кафэ паснедаць. Павітаўшыся, жанчына пачала знаёміць мяне з гасцямі. „А навошта нас знаёміць, калі мы ўжо сто гадоў знаёмыя", — усміхаючыся сказаў Генадзь Шэмет.



Мы павіталіся. А потым да нашага вітання сталі падыходзіць іншыя знаёмыя і завочна знаёмыя беларусы з Беласточчыны. Некаторым прыйшлося дапамагаць патэлефанаваць сваякам са Слонімшчыны, іншым адказаць на іх пытанні і просьбы.

Шчыра вітаюся і з Юркам Хмялеўскім — рэдактарам штомесячніка „Czasopis", які адстаў ад групы, фатаграфуючы вуліцы і помнікі Слоніма...

Фестываль „Паланэз-2014" пачаўся традыцыйна ад пажарнай вежы, а потым усе ўдзельнікі свята прайшлі па цэнтральнай вуліцы да мясцовага Дома культуры. Там паланэзы Агінскага гучалі ўсюды: на сцэне, у грымёрках, на лесвіцы. Паланэзы гралі, танцавалі, спявалі на розных мовах. Па сутнасці, гэта фестываль аднаго твора, але ў кожнага выканаўцы ён гучаў па-рознаму, таму свята — ужо нешта большае, чым проста прыгожая музыка. Праўда, гучалі на свяце і іншыя музычныя творы польскіх, беларускіх і літоўскіх кампазітараў.

Сваё майстэрства паказвалі і беларускія калектывы з Беласточчыны, а таксама іншыя госці з Польшчы.

Месца фестывалю выбрана невыпадкова. Менавіта ў Слоніме прайшло дзяцінства кампазітара Міхаіла Клеафаса Агінскага, аўтара знакамітага паланэза „Развітанне з радзімай". У горадзе пражываў ягоны дзядзька Міхал Казімір Агінскі. Дарэчы, ён жа і стваральнік помніка гідратэхнікі XVIII стагоддзя — канала Агінскага. Побач з каналам Агінскі ў 1775 годзе пабудаваў і славуты на ўсю Еўропу тэатр, для пастановак якога сам жа складаў музыку.

Сёння пра Агінскага ў Слоніме нагадвае і канал, і вуліца ў яго гонар, і некалькі будынкаў той эпохі, а таксама мемарыяльная шыльда, адкрытая нядаўна на будынку Слонімскага драматычнага тэатра. А да 1939 года ў Слоніме аркестр мясцовай пажарнай каманды два разы на дзень іграў паланэз, як сігнал дакладнага часу...

Для „Нівы" я сфатаграфаваў прысутнасць беларусаў і палякаў на фестывалі „Паланэз-2014" у Слоніме.

■ Тэкст і фота Сяргея ЧЫГРЫНА

---

# Партнёрскі форум

Упершыню за дванаццаць гадоў у такім маштабе, у нядаўна пабудаваных памяшканнях Гарадскога стадыёна ў Беластоку (фінансаванага сумесна з Еўрапейскім Саюзам), сустрэліся польскія і беларускія прадстаўнікі мясцовых органаў улады і самаўрадавых устаноў з гарадоў-партнёраў з амаль усёй Польшчы і Беларусі. Форум гарадоў-пабрацімаў Польшча — Беларусь (15-16 мая) быў у асноўным абменам вопытам работы самаўрадаў — па-рознаму дзейнічаючых ў дзвюх краінах з прававога і практычнага пункту гледжання — і яго ўстаноў, але, перш за ўсё, аб практычных рашэннях, якія служаць жыхарам. Ганаровы патранат над Форумам прынялі міністры замежных спраў Радаслаў Сікорскі і віцэ-прэм'ер, міністр інфаструктуры і развіцця Альжбета Бянькоўская.



**Злева:** Аляксандр Гур'янаў, Тадэвуш Трускаляскі, Кацярына Касперчык

З ідэяй арганізаваць форум выступіў віцэ-старшыня парламенцкай камісіі па замежных справах, старшыня парламенцкай групы па Беларусі дэпутат Роберт Тышкевіч. На прэс-канферэнцыі за чатыры дні да форуму прэзідэнт горада Беластока Тадэвуш Трускаляскі сказаў:

— Я згадзіўся на форум з вялікім задавальненнем, таму што Беларусь з'яўляецца нашым бліжэйшым суседам і многа сямейных і эканамічных адносін злучае нас з гэтай краінай. Мы лічым, што Беласток мае свае жыццёвыя інтарэсы на Усходзе і чэрпае шмат ад супрацоўніцтва з Усходам. Па афіцыйных даных, каля 200 мільёнаў еўра беларусы пакідаюць у год у нашых крамах, з-за чаго маюць значны ўплыў не толькі на функцыянаванне камерцыйных сетак, але і на ўсю эканоміку нашага горада.

Дэпутат Тышкевіч на канферэнцыі адзначыў:

— Гатоўнасць да ўдзелу ў форуме паведаміла каля пяцідзесяці польскіх і беларускіх гарадоў. Гэта сведчыць аб гатоўнасці інтэнсіўнага супрацоўніцтва органаў мясцовага самакіравання з абодвух бакоў мяжы.

Ён падкрэсліў, што форум з'яўляецца часткай праграмы Усходняга партнёрства, якой Беларусь, разам з пяццю іншымі краінамі былога Савецкага Саюза, з'яўляецца акцыянерам (на працягу некатарага часу, аднак, пасіўным). Адзначыў:

— Я рады, што Беласток адпаведна чытае сваю ролю ў працэсе еўрапейскай усходняй палітыкі. Наш горад — самы далёкі на ўсходзе, найбліжэйшы сухапутнай мяжы ЕС, павінен быць месцам сістэматычнага самаўрадавага дыялогу, эканамічнага, сацыяльнага, культурнага, па меншай меры, у польска- ці еўразійска-беларускім вымярэнні. Я перакананы, што форум з'яўляецца першым крокам да інстытуцыяналізацыі кантактаў на ўзроўні мясцовага самакіравання Польшчы і Беларусі.

Яшчэ падчас прэс-канферэнцыі «Ніва» спыталася, як прэзідэнт Трускаляскі ўяўляе размовы польска-беларускіх самаўрадаўцаў падчас форуму, калі праца органаў мясцовага самакіравання і мясцовых дзяржаўных устаноў у абедзвюх краінах кардынальна адрозніваюцца (у нашым паняцці самаўрад у Беларусі не існуе). Прэзідэнт сказаў:

— Сістэмы функцыянавання нашых самаўрадаў розныя, але людзі і адказнасць мясцовых органаў улады з'яўляецца такой самай. Мы нясем адказнасць за цэлы шэраг дзеянняў, звязаных з эканамічным развіццём, па меншай меры з нашага боку, каб стварыць клімат для эканамічнага развіцця, для справы адукацыі, планавання і прасторавага добраўпарадкавання, водазабеспячэння, цяпла і іншых медыяў. Тэмай для размоў на самой справе вельмі шмат. Тут адрозненні даволі вялікія. Там існуе хутчэй ручное кіраванне з пункту гледжання эканомікі. Мы не лічым гэтых адрозненняў, але, вядома, мы можам абменьвацца вопытам, а таксама тым, што нас яднае.

Віцэ-старшыня Тышкевіч дадаў:

— Варта прыклад польскай трансфармацыі прэзентаваць нашым усходнім суседзям, гэта наш экспартны тавар. Пакарыстаюцца ім у такім маштабе, які палічаць патрэбным, на які ім дазволіць палітычная сістэма, у якой працуюць. Палітычны складнік у самаўрадавых адносінах таксама існуе. Гэта прыцягненне ў Еўропу. Што яшчэ мы можам зрабіць, чым паказаць, як выглядае ЕС на нашым уласным прыкладзе, спадзеючыся, што гэта таксама будзе ўплываць на ўспрыманне мясцовых жыхароў?

Дэпутат Тышкевіч таксама выказаў надзею, што форум будзе магчымасцю, каб звяртацца да беларускіх партнёраў з заклікам далучыцца да польскіх намаганняў па ажыццяўленні малога памежнага руху паміж Польшчай і Беларуссю. Адпаведнае пагадненне было падпісана спачатку міністрамі замежных спраў абедзвюх краін, было ратыфікавана парламентамі Польшчы і Беларусі яшчэ ў 2010 годзе, затым было падпісана прэзідэнтамі Камароўскім і Лукашэнкам, але ўсё яшчэ чакае абмену дыпламатычнымі нотамі па заўяўцы беларускага боку.

Падчас форуму Аляксандр Гур'янаў, намеснік міністра замежных спраў Беларусі падкрэсліў:

— Рэспубліка Беларусь надае вялікую вагу памежнаму, рэгіянальнаму супрацоўніцтву і ў гэтым дачыненні мы гатовыя весці актыўны дыялог з польскімі ўладамі, у тым ліку ў рамках сумеснай міжурадавай трансгранічнай камісіі, падчас сустрэчы якой у найбліжэйшай будучыні, у час якой будуць абмяркоўвацца праблемы разгледжаныя на форуме. Сёння ў нас ёсць амаль 65 пагадненняў паміж польскімі і беларускімі гарадамі і рэгіёнамі. Пазітыўна, што нашы польска-беларускія ініцыятывы маюць падтрымку ЕС. Сёння мы можам сказаць з поўнай упэўненасцю, што рэгіянальнае трансмежнае супрацоўніцтва паміж Польшчай і Беларуссю гэта асноўная крыніца ініцыятыў і праектаў у двухбаковым супрацоўніцтве.

Дадаў:

— У Рэспубліцы Беларусь актыўна прымаюцца высілкі для таго, каб ствараць спрыяльны інвестыцыйны клімат і ўжо сёння можна сказаць, што Польшча з'яўляецца адным з самых актыўных інвестараў на тэрыторыі РБ.

Ён паведаміў, што кошт польскіх інвестыцый у Беларусі ў мінулым годзе склаў 180 мільёнаў долараў:

— Мы спадзяемся, што ў гэтым годзе ўзровень будзе яшчэ большы, улічваючы, што Польшча фіксуе адносна стабільную эканамічную сітуацыю ў нашых гандлёвых абаротах. Мы будзем падтрымліваць прыток польскіх інвестараў у Беларусі. Беларусь становіцца ўсё больш цікавым партнёрам для польскіх кампаній у якасці ўдзельніка мытнага саюза і адзінай эканамічнай прасторы, у якую ўваходзяць апрача Беларусі, Расія і Казахстан.

У сваю чаргу Кацярына Касперчык, намеснік міністра замежных спраў Польшчы па справах пазаеўрапейскай палітыкі, грамадскай і эканамічнай дыпламатыі адзначыла:

— Самаўрады і іх органы іграюць ключавую ролю ў фармаванні добрасуседскіх адносін паміж краінамі. Стабільнае суседства з'яўляецца важным элементам, які ўплывае на стабілізацыю сітуацыі ў кожнай з нашых краін. Будаўніцтва добрых адносін паміж польскімі і беларускімі партнёрамі на ўсіх узроўнях будуе добрую платформу ўзаемнага даверу паміж грамадствамі, падтрымлівае гандаль, але гэта таксама інструмент, які падтрымлівае будаўніцтва грамадзянскай супольнасці як у Польшчы, так і ў Беларусі. Важную ролю тут іграе магчымасць таго, каб падзяліцца з партнёрамі ў Беларусі нашым вопытам з сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў за апошнія 25 гадоў. Усталяванне самакіравання стала краевугольным каменем польскай трансфармацыі і выразам змены падыходу да грамадзяніна.

Адзначыла:

— У рамках супрацоўніцтва з беларускімі партнёрамі польскія самаўрады маюць асаблівую ролю ў галіне культуры і эканомікі. Польска-беларускія абароты гандлю ў 2013 годзе павялічыліся на 7 працэнтаў і склалі больш за 3 млрд. долараў, і мы спадзяемся, што гэты рост будзе прагягвацца. Мы таксама падтрымліваем актывізацыю трансгранічнага эканамічнага супрацоўніцтва. Лічым, што ўвядзенне малога памежнага руху можа забяспечыць дадатковы стымул для гэтага тыпу эканамічных адносін.

Ева Адамчук з Сумеснага тэхнічнага сакратарыята Праграмы трансгранічнага супрацоўніцтва Польшча — Беларусь — Украіна падлічыла, што ў мінулым годзе ў рамках праграмы ЕС, які рэалізуецца Сакратарыятам, было падпісана 117 польска-ўсходніх кантрактаў (разнастайныя праекты, на розных узроўнях), у тым ліку 29 польска-беларускіх і 11 трохбаковых, на агульную суму 174 мільёнаў еўра:

— Наша праграма таксама ў трохбаковым супрацоўніцтве будзе працягвацца. Тры краіны вырашылі выбраць чатыры тэматычныя задачы, датычныя да праектаў садзейнічання мясцовай культуры і ахове культурнай спадчыны, стварэння сумесных прадпрыемстваў у галіне бяспекі, паляпшэння даступнасці памежных рэгіёнаў ды кіравання межамі і іх абароны. Запланаваны тэрмін для прадстаўлення праграмы Еўрапейскай камісіі — пачатак 2015 г.

Дэпутат Тышкевіч:

— Настойліва заклікаю беларускі бок да думкі: ад мясцовага прыгранічнага руху да бязвізавых паездак.

*(працяг будзе)*

■ Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# Плёскі — даўней і сёння

**Нядаўна наведала я сваю родную вёску Плёскі. Праўда, летам часцей бываю ў сваіх адышоўшых ужо бацькоў на могілках. Паколькі няма ўжо ў вёсцы маёй радні, я кожны раз наведваю былую суседку Надзю, як тут завуць, Марцінкаву. І вось апошнім разам трапіла мне ў рукі цікавая кніжка — манаграфія Плёсак пад загалоўкам „Ploski — przeszłość i teraźniejszość” (2013) аўтарства Валянціны Гаўрылюк, былой настаўніцы, жыхаркі вёскі, з дэвізам: „Мой родны кут, як ты мне мілы, забыць цябе не маю сілы” (Якуб Колас, паэма „Новая зямля”).**




Кніжку пазычыла мне Надзя, а я — вярнуўшыся дамоў — прачытала яе ў захапленні ў адзін дзень. Аўтарка гэта малодшае пакаленне. Якраз з аднаго роду Прахарукоў выводзяцца нашы карані: аўтаркі — па бацьку, мае — па маме. І жыве яна сёння на тым месцы (панадворку), адкуль родам мая бабуля Ганулся, а яе прабабуля Яўдося. Была ў іх і трэцяя сястра Наталка, і брат Антось. Усіх я вельмі добра помню, я ўжо была дарослай, калі ўсе бабулі памерлі ў 1957 і 1958 гадах. Кніжка-альбом багатая здымкамі — даўнімі і сучаснымі. Расказвае аб гісторыі адышоўшых пакаленняў жыхароў вёскі, як і нам сучасных. Кожны з нас, ураджэнцаў Плёсак, знойдзе цікавую інфармацыю пра даўняе або сённяшняе жыццё блізкіх, а мо і пазнае сябе на не адным здымку. Хаця я многа (аднак замала) ведаю аб сваіх продках, а ўсё ж знайшла ў кніжцы новыя, невядомыя дасюль, весткі. Усе Прахарукі, як піша аўтарка, былі ў Тамбоўскай губерні і тут даведалася я, што мая бабуля з маёй мамай і братам Нічыпарам вярнуліся ў сваю вёску ў 1918 г. разам з сям’ёй Івана Прахарука (дочкі былі ўжо замужнія), майго прадзеда. Усе разам вярталіся. Толькі мой дзед Дэм’ян Федарук загінуў у дарозе ў бежанства ў 1915 г. У паваротнай дарозе памерла жонка Івана Прахарука — Ягата Ліпская, мая прабабуля і іх наймалодшая дачка — Кацярына. Як расказвала мая мама — бабуля Ганулся з дзецьмі жыла ў школе. Новенькая хата пабудаваная дзедам Дэм’янам была спалена. Потым бабуля аддала маю маму ў прытулак у Бельску, а сама пайшла прасці кудзелю ў каталіцкія вёскі, каб зарабіць на шпіхерчык і паставіць на сваім панадворку. Як успаміна бабуля Ганулся, яе бацька Іван Прахарук карыстаўся вялікай пашанай у вёсцы, меў сорак хроснікаў. Таму відаць, як даведваюся з кніжкі, быў ён у 1915 г. старастам. Прадзед пахаваны на старых могілках ля царквы. Як мне прыемна было знайсці прозвішча другога прадзеда, Ядамка Федарука, якога сям’я, як падае спісак з 1869 г., складалася толькі з трох чалавек: бацькі і майго дзеда (нар. 1865 г.), а ўжо ў 1895 г. прыйшла сюды замуж мая бабуля Ганулся, як дзевятая душа ў хату. Часта ўспаміна, як іх было многа пры стале. Жонка Ядамка — Мар’янна Карчэўская, і мелі яны чатырох сыноў і адну дачку. Вельмі любілі заглядаць ва ўспомненую ў кніжцы карчму над ракой Нарвай, ля моста (аб чым я пісала ў „Ніве”). Ёсць і інфармацыя пра майго дзядзьку Івана Бручко (у кніжцы без імя), роднага брата майго бацькі Максіма Бручко. Ён уцёк з лагера разам з Матэюшам (забыла імя) з Плёсак, які жыў на Сярэдзіне. Амаль да самай смерці ўзаемна гасцявалі на Спаса і на Прачысту. Ёсць і ўпамінанне аб маёй маме (нар. 1909 г.), якая ездзіла як адна з жанчын сярод мужчын, у абоз вазіць раненых байцоў летам 1944 года. Прачытала я і пра майго бацьку, вядомага ў ваколіцы цесляра. Расказваў мне бацька, як ён, Антэк Федарук (тады жыхар на Мацейках) і хтосьці трэці (я забылася) купілі першымі ў вёсцы веласіпеды на шырокіх пакрышках, з рулямі закручанымі як барановы рогі. Мне запамяталася з вельмі ранняга дзяцінства, як бацька вазіў мяне на раме ў лаўку, дзе сёння новыя могілкі.

Аб успомненым у кніжцы Мееры і яго сям’і вельмі часта ўспаміна мама. Яго жонка Хіма сябравала з маёй бабуляй Ганусяй і яна часта забірала маму ў іх хату. Абрамка і яго браты таргавалі яблыкамі. Былі там і дзве дачкі, якія выйшлі замуж і выехалі ў Амерыку. Таму і засталіся ў жывых. Усе астатнія трапілі ў гета. Перад выездам Хіма падарыла маме скавародку, якая служыла нам доўгія гады. А Абрамка, як успамінаецца ў кніжцы, прыходзіў да нашай моладзі на патанцоўкі, якія адбываліся ў Данілавай хаце на Мацейках. Апошні раз мае бацькі сустрэлі Абрамку на беластоцкай вуліцы. Падышоў да воза, каб развітацца назаўсёды. Тады мама сказала: „Абрамка, ты ўцякай, прачся, ты ж не падобны на яўрэя”. А ён адказаў: „Не, куды жонка і дачка, туды і я з імі”. Усе загінулі.

Цікава мне было прыпомніць і пра крыж на Бруодзе, аб якім піша аўтарка. За мамінай, хіба і бабулінай памяццю, і майго дзяцінства ў тым месцы страшыла Харытка (аб гэтай легендзе я таксама пісала ў „Ніву”). Помню, мы як дзеці беглі праз Бруод без духу. Многа пазней Лярко Грыгарук крыж парубаў, спаліў, а старую вярбу, пад якой стаяў крыж, зрэзаў і таксама спаліў. І так прапала ўся легенда.

Думаю, што пакаленне аўтаркі, не гаворачы аб маладзейшых, мо і зусім пра Харытку не чулі. Так, як і пра другую легенду (яе таксама ўспаміна я ў „Ніве”), звязаную з урочышчам Мутніца, куды, як расказвала мне бабуля, уцякалі плёскаўцы, калі прыйшла ў вёску халера. Зацікавілі мяне і назвы ўрочышчаў, пра якія ўжо і маё пакаленне не чула. Калі глядзела на здымкі першага выпуску пачатковай школы ў 1951/1952 г., сціснула за сэрца — так многіх з нас, што на гэтых здымках, няма ўжо ў жывых. Прыпомніліся і першыя настаўнікі, ужо ў большасці няма ў жывых. Толькі зусім нядаўна сустрэла я Тадэвуша Матусіка, хоць старэнькі, усё-такі я пазнала. Зімою хадзіў быў ён купацца ў Нарву, ля моста... Многія здымкі, на якіх відны мае аднавяскоўцы — прыпомнілі мне мінулае — супольныя сустрэчы, танцы, вяселлі...

З „Гісторыі сем’яў” таксама прыйшлі на думку падзеі, аб якіх расказвалі мне бацькі і бабуля. Я была тады малая, аднак цікавілася прошлым маіх продкаў. А тое, што ведаю, цяпер расказваю маім дзецям і ўнукам, паказваю месцы ў вёсцы, адкуль мае дзяды і прадзеды, а з даўніх здымкаў зрабілі мы памятны альбом.

Вельмі шкада, што ніхто з майго пакалення не ўзяўся за такую працу, якую выканала Валянціна Гаўрылюк. Тады яшчэ жылі не толькі нашы бацькі, але і дзяды, народжаныя ў другой палове XIX стагоддзя, якія пражылі і дзве вайны, і бежанства. Як жа многа цікавага можна было даведацца аб іх штодзённым жыцці, іх клопатах і радасцях. Мы ўсе хлынулі ў гарады, у школы, як найдалей да вёскі, ад сваёй культуры, мовы. Проста стараліся ўцячы, саромеліся, адчувалі сябе горшымі ад тых у горадзе. Таму вялікі дзякуй Валянціне Гаўрылюк, якая з сэрцам выканала вялікую працу, каб захаваць для будучых пакаленняў фрагмент гісторыі з жыцця нашай вёскі, нашай, як піша, „малой айчыны”.

Таму кожны, хто звязаны з Плёскамі, менш ці больш, дзяцінствам ці ранняй маладосцю, павінен узяць у рукі гэтую каштоўную для нас кніжку, якая верне нам успаміны, узбагаціць ведамі аб нашых, блізкіх і далёкіх продках. Не аднаму, чытаючы, закруціцца сляза ў воку. Я ўпэўнена, што аўтарцы Валянціне ўдалося дасягнуць задуманую ёю мэту. Вельмі добра, што кніга выйшла на польскай мове з захаваннем назваў у плёскаўскай гаворцы, бо маладыя не ведаюць ужо ані беларускай мовы, ані плёскаўскага дыялекту. Калі заехаць у вёску ў свята, на вуліцы сярод маладых і дзяцей, наведваючых сваіх дзядоў, гучыць толькі польская мова.

Прыемнага чытання, землякі!

**Ніна БРУЧКО**

## Шляхам дзяцінства Анатоля Шыгаловіча (1)

Анатоль Шыгаловіч — адзін з апошніх ураджэнцаў Крынак, які помніць даваенную планіроўку мястэчка. Упершыню пабачыў ён свет 6 снежня 1929 года. Бацькоўская гаспадарская хата стаяла тады па вуліцы, якую па вайне назвалі вуліцай Войска Польскага. Нягледзячы на апошні, больш за сямідзесяцігадовы перыяд пражывання пад іншым адрасам, гэтая сядзіба надалей застаецца ягоным месцам. З ёй і пачынаецца наша сентыментальная рэканструкцыя мінулага Крынак перыяду дзяцінства спадара Анатоля.

Даволі прасторны, багаты алешнікам панадворак сям’я Шыгаловічаў дзяліла з Залеўскімі. Драўляную хату бацька Анатоля — Міхаіл паставіў сваімі сіламі. Была яна настолькі вялікай, што хапала месца і сям’і, і кватарантам. За аплатай знаходзілі тут бяспечны прытулак пераважна прыезджыя жыды-гарбары. Рух у інтарэсе быў сапраўды вялікі. Кватаранты, так як і гарбарні, з’яўляліся ў даваенным мястэчку як грыбы пасля дажджу. На той жа вуліцы знаходзілася, між іншым, гарбарня Нагдымана. Непадалёк працавала прысядзібная майстэрня гарбара Лістокіна. Гарбарні звычайна будаваліся за хатамі, далей ад вуліцы. Усё абгароджанае было даволі высокім плотам. Паспяховых рамеснікаў бяднейшая частка насельніцтва называла купцамі. Купец меў у звычаі назначаць грашовую пазыку патрабуючым. Найчасцей бралі грошы на лячэнне дзяцей. «Людзі перад вайною былі бедныя, але сумленныя», — прызнаецца спадар Анатоль. Праблем з выплатай даўгоў ніколі не было. Доўг можна было адрабіць, наняўшыся чорнарабочым у гарбарню ці, у выпадку жанчын, на службу ў хаце канкрэтнага купца.


Гарбарня Гройсмана

Вялікая гарбарня Лістокіна знаходзілася па-суседску з неіснуючым сёння будынкам крынскай гміны. Таму перад вайной гэтая вуліца называлася Гміннай. Паўднёвы бок вуліцы сутыкаецца з выганам і колішняй базарнай плошчай, за якой сёння знаходзіцца найстарэйшая частка разлівачнага цэха мінеральнай вады «Крынка». Там перад вайною знаходзілася жыдоўская бойня. Потым у яе сцены з трэфным, некашэрным мясам завіталі немцы, а пасля іх — саветы. Некалькі гадоў пасля заканчэння вайны размясціўся там атрад польскага войска, адтуль і ўзялося перайменаванне колішняй вуліцы Гміннай.

Насупраць бойні, на другім баку выгану, стаіць вялікі двухпавярховы будынак. У ім вырабляў скуры яшчэ адзін паспяховы крынскі прадпрымальнік, яўрэй па прозвішчы Гройсман. Вуліца Войска Польскага займае падмоклую, надрэчную тэрыторыю. Як заўважае спадар Анатоль, гарбар-пенсіянер, апрацоўка скур патрабуе вялікай колькасці вады. Тут хапала ёй для ўсіх.

Немцы, калі ўвайшлі ў Крынкі ў сорак першым годзе, спалілі большасць гарбарняў. З дымам пайшла тады таксама суседняя хата Шыгаловічаў. Кампенсацыі за прычыненую ім страту сям’я спадара Анатоля не атрымала. Пагарэльцаў часова пасялілі ў старой праваслаўнай плябаніі. Неўзабаве трэба было ім перасяліцца ў хату, гаспадароў якой адправілі ў гета. Але пра гэта ў чарговай вандроўцы шляхам дзяцінства спадара Анатоля.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Увага, конкурс!!! (№ 21-14)

## Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 1 чэрвеня, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**1.**

Адразу быль і небыліца:
на хмарах едзе калясніца.
Нібы знайсці дарогу хоча:
то пастаіць, то зноў грукоча.
(Г...)

**2.**

Сушыць сонейка на траўцы
паласатыя матрацы.
Тут матрацы — рох, рох, рох!
Пакаціліся ў гарох.
(Дзі... п.......)

Адказ, на загадкі № 18: Май, туман.
Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі Юліта Грыка, Крыстыян Стоцкі, Юлія Васілеўская, Кандрат Монах, Юлія Чабан, Куба Яроцкі з Міхалова, Куба Андрацкі з Саколкі, Наталля Маркевіч з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

*(Пра свята ў Семяноўцы, якой 380 гадоў)*

# Нават у мяне з вачэй пакаціліся слёзы



Фота Міры ЛУКШЫ

Семяноўцы споўнілася ўжо 380 гадоў і 10 мая ў мясцовай царкве адбыўся малебен за ўсіх жыхароў вёскі, а потым была адкрыта фотавыстаўка.

Гаворыцца, што Семяноўка паўстала ў 1634 годзе. З тых часоў тут многа змянілася. Пабудавалі чыгунку, паўстала парафія і заліў Семяноўка, папрыгажэлі хаты, панадворкі і заадно ўся вёска.

Хаця я жыву ў Тарнопалі, то ў мяне была патрэба прыехаць у так важную хвіліну ў Семяноўку. Гэта вёска многа для мяне значыць. Тут вучыўся мой бацька, тут нарадзіўся мой дзядзька, тут мяне хрысцілі, тут я хаджу ў царкву, тут жывуць мая сяброўка і мае сябры.

Цяжка мне, і пэўна ўсім, паверыць, што гэта ўжо 380 гадоў. Ад пакаленняў тут усе ўсіх ведаюць, усе гавораць па-свойму. Гэта цудоўная атмасфера. Таксама было ў час малебна. Некаторыя людзі моцна ўзрушыліся. Нават у мяне ў вачах з'явіліся слёзы.



Наталля Васько з сябрамі

Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Калі ўжо ўсе прыйшлі на выстаўку, аказалася, што ў святліцы не хапае месца. Шмат людзей стаяла. Напачатку слова ўзяла спадарыня Галена Рэнт. Яна прывітала сабраных і прадставіла гасцей — войта Нараўчанскай гміны Мікалая Павільча, раднага — Лявона Хлябіча, бацюшку — Мікалая Шэбеляна і Антона Рэмеша, які быў галоўным госцем выстаўкі. Я там спаткала таксама спадарыню Міру Лукшу, якая нарадзілася ў Семяноўскай парафіі.

У час выстаўкі 23 асобы ўдзельнічалі ў конкурсе-неспадзяванцы. Яны атрымалі старыя здымкі і ім трэба было сказаць, хто на іх сфатаграфаваны. На здымках былі таксама жыхары вёсак, якія „прагльнула” Семяноўскае вадасховішча — Лукі, Рудні, Рыбакоў, Гарбароў, Боўтрык. Да святліцы ў Семяноўцы можна было прыносіць здымкі з гэтага рэгіёна.

У Семяноўцы людзі ведаюць адзін аднаго, так што не было праблемы, каб пазнаць людзей са здымкаў. Найлепшай аказалася спадарыня Раіса Матысюк, вядомая ў Семяноўцы як Райка. Яна атрымала грамату „Знаўца Семяноўкі”.

Пасля спадар Антон Рэмеш паказаў здымкі з могілак, якія зрабіў пры дапамозе мясцовага бацюшкі. Было іх аж 80. Затым бацюшка расказаў нам гісторыю парафіі.

Выстаўку можна глядзець яшчэ месяц. Усіх зацікаўленых сардэчна запрашаем. Ужо цяпер запрашаем таксама на народны фэст, які адбудзецца 9 жніўня.

**Наталля Васько,**
Гімназія імя Тамары Саланевіч у Нараўцы

*Ганна Годзінская, IV „а”, ПШ № 3 у Бельску-Падляшскім*

## Люблю вясну

Люблю я вясну
На пачатку мая.
Яна для мяне тады
Найбольш прыгожая.
Усе птушкі спяваюць,
Сваіх сяброў склікаюць,
А нас, усіх людзей,
На канцэрт запрашаюць.
Люблю ў паветры
Цудоўны пах мая.
І кветкі, і дрэўцы,
І неба, і сонца,
І траўка, і звяры
Усе любяць вясну.
Ці любіш і Ты?

*Рафал МАРЧУК, Нараўка*

## Два дубы

На ўзгорку пры асіне
Раслі два дубы.
Адзін меншы,
Другі большы —
Родныя браты.
Ціха лісцем шалясцелі,
Быццам бы шапталі,
Пра пабачаныя рэчы
Усім апавядалі.

*Іаанна Нікіцюк, клас IV „а”, ПШ № 3 у Бельску-Падляшскім*

## Бусел-пешаход

Цэлы дзень ходзіць бусел па палях.
Згадайце, чаго ён шукае: яды дзеткам.
Калі назбірае ўжо поўны дзюбак,
Ляціць хутчэй накарміць буслянят.

# Я не веру, што каты жэняцца!

Дзіцячыя песні любяць усе, а ўжо найбольш нашы дзядулі і бабулі. На гэта ёсць канкрэтны доказ. Калі ў Падляшскім канцэрце пажаданняў ідзе песенька „Захварэў мой бедны коцік”, уся Беласточчына балдзее. У час апошняга Агляду беларускай дзіцячай песні мяне захапілі выступленні дзетак з беларускага прадшколля. Алесь Здрайкоўскі — хлапчук, які не толькі спявае. Ён яшчэ жартуе як стары. Песеньку „Коцік маркотны” развучыў ён з дыску „Вясёлкі”. Спадабалася мелодыя і яшчэ больш жартоўныя словы.

— Я сам не веру, што каты жэняцца, — кажа Алесь. — Ніколі такога не чуў. Не бачыў. Каты не падыходзяць да замужжа, бо яны... уцякаюць.

Пакуль у Алеся няма свайго звярка. Ён сам марыць пра труса. Чаму? Каб яго прылашчыць, прытуліць. І важна, што трус не ўцячэ з рук, не пацарапае...

З падобным захапленнем я глядзела на выступленне Алеся Хамянюка. Хлопчык праспяваў дзве песні: „Ласяня з Ласінян” і „Жук з Жукоў”. У Алеся дасканалае адчуванне рытму, добры слых і добрая памяць. Нягледзячы на складанасць тэкстаў, ён дакладна завучыў словы песень і ні разу не зблытаў слоў ці фразы. Яго выкананне было настолькі мілагучным і чароўным, што аж не верылася... Не верылася, што так акуратна і прыгожа спявае самы маленькі ўдзельнік конкурсу!

На канец трэба пахваліць усіх дзяцей з беларускага прадшколля. Тут як нідзе адчуваецца захапленне беларускай песняй. Дзеткі адчуваюць сябе на сцэне як рыба ў вадзе. Ды файна, што вывучаюць новыя песні з нашага панадворка. Апошнія агляды паказваюць пэўную тэндэнцыю — з'явіўся шмат песень на словы Міры Лукшы. Музыку для іх напісала таленавітая настаўніца з беларускага садка Анна Бабік. Песні расславілі таксама вучні з „чацвёркі”, якія паставілі мюзікл „Звярнякі з глыбінкі”. Прыемна і прыгожа, калі цудоўныя песні вырастаюць з нашай глыбінкі і знаходзяць прызнанне ў найбліжэйшым асяроддзі.

ЗОРКА

# Вершы Віктара Шведа

## У рэстаране

Прыйшоў на абед Кастусь,
Афіцыянт за хвіліну
Прынёс яму гускі кус
І кажа: — Еж, малайчына!

Кастусь закіпеў злосцю,
Не шкадуючы горкіх слоў:
— Тут толькі скура і косці!
— Хочаш, каб і пер'е было?

## Калі ясі, не брашы

— Тата, мама! — Маўчы Яфрэм,
Дамовіліся з табою:
— Калі я ем, дык глух і нем,
Спажываць трэба ў спакою.

— Паелі — дык пытай сынок,
Кажы, што запытаць хацеў.
— Муха папалася ў супок,
А ты яе, татулька, з'еў.

## З прыездам

— А дзе ж ты быў сынок,
Прапаў так нечакана.
— Я ездзіў у Беласток
Здаваць цяжкі экзамен.

— Дык з чым павіншаваць
Цябе, сын блуднаваты?
— Магу тут падказаць:
З маім прыездам, тата.

# ОЛЯ ЗНОЎ ПЕРАМАГЛА!

**Оля Пугацэвіч** з беластоцкай „чацвёркі” ад нейкага часу перамагае ў спартовых спаборніцтвах. Яе любімая справа — гонкі. Вось, у апошні час наша сяброўка атрымала вялікі поспех. Яна перамагла ў конкурсе бегаў на 600 метраў па пересечанай мясцовасці (biegi przełajowe). Падумаеце — якую ж мясцовасць перасякла так паспяхова наша сяброўка? Шчасце сустрэла яе ў беластоцкім квартале „Пятрашэ”, пра што з гонарам паведаміла на сваім фэйсбуку яе мама Агнешка 15 мая г.г. Віншуем!

**Фота Агнешкі ПУГАЦЭВІЧ**

# Польска-беларуская крыжаванка № 21

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 17:

Тоеснасць, строй, Рым, мат, пас, мара, карагод, май, дзед, цяга, мае, ганак, ай, жменька. Травіца, рыс, яна, ой, гамак, мара, рай, маг, мне, ода, тыдзень, уладыка.

**Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі Мальвіна Маркевіч, Кацярына Лаўрашук, Наталля Маркевіч, Дамініка Календа** з Бельска-Падляшскага, **Вераніка Дмітрук, Мальвіна Рышкель, Кацярына Вішнеўская** з Шудзялава, **Якуб Андрацкі** з Саколкі. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Komora | Mleko | | Woda / Sałatka | | | | | |
| | Kasa / Świat | | | | | Dzik / Książka | | Wiadro | |
| | Placki | | | | | | | Oda / Obrzęd | |
| | Błys-kawica | | | | | | | | |
| Oko / Piłka | | | | | | | | | Ara |
| | Usta | | | | Upał | | | | |
| | | | | | | | Ar | | |
| | Ona | Kokarda | | | | | | | |

# Увага настаўнікі

Як кожны год, наша рэдакцыя арганізуе журналісцкія майстар-класы для школьнікаў. У гэты раз Сустрэчы „Зоркі” запланаваны на 17-22 чэрвеня 2014 г. Згодна з традыцыяй будзем працаваць у паасобных рэдакцыях, пісаць інфармацыі і фельетоны, праводзіць размовы з цікавымі людзьмі ды складаць сапраўдныя газеты. Усё пад вокам вопытных журналістаў і запрошаных гасцей. На Сустрэчы „Зоркі” запрашаем нашых карэспандэнтаў, а частку ўдзельнікаў прапануюць настаўнікі. Вось і звяртаемся ў гэтай справе. Напэўна сярод вашых выхаванцаў ёсць вучні захопленыя літаратурай і зацікаўленыя журналістыкай. Калі ласка, дашліце прыклады прац кандыдатаў (могуць быць як артыкулы, так і літаратурныя творы). Аўтары самых цікавых допісаў атрымаюць запрашэнні на нашы майстар-класы. Прапановы дасылайце да 1 чэрвеня (лік удзельнікаў абмежаваны) на адрас рэдакцыі. Напамінаем, Сустрэчы „Зоркі” праводзім з 1995 года. Сярод нашых выпускнікоў ёсць журналісты беларускіх і польскіх медыяў. Майстар-класы — гэта ўзнагарода для дзяцей і моладзі, якія пішуць у „Зорку” па-беларуску.

**Ганна КАНДРАЦЮК**

# Мастакі малявалі вясну

**Айчынныя і замежныя мастакі палюбілі маляўнічыя ваколіцы Нараўчанскай гміны (Гайнаўскі павет) і прыязджаюць сюды ўжо шмат гадоў у розныя поры года. Найчасцей летам і восенню. Былі пленэры ў Нараўцы, Семяноўцы, Масеве і Скупаве. Усюды іх цёпла і сардэчна прымалі.**

У красавіку г.г. мастакі з Гайнаўкі Данель Грамацкі (камісар сёлетняга пленэру) і Віктар Кабац запрасілі іх у Старое Ляўкова на XIII Міжнародны мастацка-разьбярскі пленэр пад лозунгам „Квітнеючыя сады”. Прыехалі айчынныя мастакі з Аполя, Беластока, Гайнаўкі, Любліна, Лэнчнай і Ясла, а таксама замежныя з Беларусі і Латвіі.

З Беластока прыехалі Альжбета і Аляксандр Гжыбэк, Анна Юргелянец, Мацей Какарэка і Станіслаў Асташэўскі (старшыня беластоцкага аддзела Саюза артыстаў-пластыкаў — Польскае прыкладное мастацтва), з Гайнаўкі — Віктар Кабац і Данель Грамацкі, з Аполя — Малгажата Сабалеўская, з Любліна — Данель Ліпян-Канюк і Веслаў Бэднаж, з Лэнчнай — Мая Зузанская і Марыля Гішчак, з Ясла — Малгажата


Віктар Кабац

і Багдан Самборскія, з Брэста — Аляксей Жарало і з Рыгі — Андрэй Севярэтнікаў.

Намалявалі яны 67 карцін (пераважна акрылам і алеем) і зрабілі 48 скульптур з гліны. Усе яны былі захоплены прыгажосцю нараўчанскіх ваколіц і ахвотна ды з поўнай аддачаю працавалі. Намалявалі дзесяткі пейзажаў: вясковыя драўляныя хаты, дамы на беразе ракі, квітнеючыя сады з вуллямі, звілістыя берагі пушчанскай ракі Нараўкі, надрэчныя лугі ў майскіх красках, вясенняя лясныя закуткі Белавежскай пушчы, захад сонца над ракою, выявы царквы ў Нараўцы і Старым Ляўкове (адну з такіх карцін Малгажаты Сабалеўскай падарылі настаяцелю Стараляўкоўскага праваслаўнага прыхода а. Леаніду Янкоўскаму).

Госць з Рыгі Андрэй Севярэтнікаў намаляваў дзесяць карцін з прыгожымі надрэчнымі краявідамі. Дванаццаць карцін намалявала Альжбета Гжыбэк, у тым ліку восем з квітнеючымі яблынямі ў садах з вуллямі ды карціны з іншымі дрэвамі ў вясеннім роскваце. Дванаццаць карцін намаляваў таксама Данель Ліпян-Канюк і адзінаццаць карцін Аляксандр Гжыбэк. Аляксей Жарало даў на выстаўку дзве карціны, Данель Грамацкі — восем і Мая Зузанская — пяць.

Скульптары разьбярылі ў вялікай зале святліцы, затым насілі свае працы на керамічную фабрыку, якая знаходзіцца побач клуба. У фабрычных печах гліняныя творы ператвараліся ў мастацкую кераміку. Тэмы керамічных скульптур былі самыя розныя. Дваццаць скульптур зрабіў Веслаў Бэднаж, дзесяць — Станіслаў Асташэўскі і па некалькі іншыя. Цікавую разьбу ў дрэве „Хрыстос усё бачыць” зрабіў Віктар Кабац (на здымку) з Гайнаўкі.

Міжнародны пленэр адбыўся ў Старым Ляўкове дзякуючы прыхільнасці і дапамозе войта Нараўчанскай гміны Мікалая Павільча, старшыні Суполкі „Будаўнічая кераміка Ляўкова” Рамана Зуйко, дырэктаркі Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы Галены Марыёлі Рэент і кіраўнічкі святліцы ў Старым Ляўкове Крысціны Паскробка. Працы з сёлетняга пленэру трапілі ў Галерэю імя Тамары Саланевіч у Нараўцы.

Падчас пленэру мастакі ладзілі выставы, між іншым, выставу рэалістычных карцін Аляксея Жарало ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы, выставу алейных карцін Казіміра Юргелянца (падрыхтавала жонка мастака Анна з нагоды першай гадавіны смерці мужа) у галерэі ў Нараўцы ды падборку карцін пад загалоўкам „Макі” Маі Зузанскай у Гмінным асяродку культуры ў Белавежы.

У заканчэнні пленэру 7 мая г.г. прысутнічалі намеснік старасты Гайнаўскага павета Андрэй Скепка, войт Нараўчанскай гміны Мікалай Павільч, радны Юрый Равінскі са Старога Ляўкова і солтыс Новага Ляўкова Ян Целушэцкі. Войт павіншаваў артыстаў-пластыкаў з поспехам у мастацкай працы і запрасіў мастакоў і скульптараў на такога роду мерапрыемствы ў наступным годзе. Варта адзначыць, што мастацка-разьбярскі пленэр ладзілі ў Ляўкове і ў мінулым годзе летам.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**



# Абстрактны жывапіс АЛЯКСЕЯ ЖАРАЛО ў Гайнаўскім белмузеі

У Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы найчасцей паказваюцца працы беларускіх мастакоў Беласточчыны, але ладзяцца таксама выставы работ мастакоў з Рэспублікі Беларусь. Ініцыятарам і суарганізатарам выставы абстрактнага жывапісу беларускага мастака з Брэста Аляксея Жарало ў Беларускім музеі быў гайнаўскі мастак малодшага пакалення Данель Грамацкі, якога майстэрня знаходзіцца ў гэтым жа музеі і які вядзе тут майстар-класы. Адкрыццё экспазіцыі адбылося 29 красавіка г.г. Данель Грамацкі запрасіў на вернісаж таксама ўдзельнікаў міжнароднага мастацкага пленэру ў Старым Ляўкове, якога быў камісарам.

— Я перадаю прывітанне ад беларускай зямлі, ад непадалёк распалажанага адсюль Брэста. Я вельмі рады, што тут магу ўдоваль размаўляць па-беларуску, спатыкацца і абменьвацца вопытам з сябрамі з Польшчы. Сэрца радуецца ў мяне, што тут жыве беларуская мова. Мне вельмі важная прамоцыя маёй творчасці ў Польшчы, паколькі ў Беларусі мы самі арганізуемся і стараемся прававаць абстрактную творчасць. Падчас вышэйшай адукацыі навучыўся я разумець мастацтва і магу выкарыстаць свае веды і ўмеласці, ствараючы новыя працы, — заявіў у белмузеі Аляксей Жарало.

Мастак нарадзіўся ў 1958 годзе на Гомельшчыне. Закончыў факультэт дызайну Віцебскага тэхналагічнага ўніверсітэта лёгкай прамысловасці. Працуе настаўнікам жывапісу і графікі ў Мастацкай школе ў Брэсце. Працы Аляксея Жарало разнастайныя. Пастаянна шукае ён новыя натхненні і новыя метады для сваёй творчасці. Найбольш працуе ў тэхніцы акрыл, але таксама стварае алейныя і гуашавыя карціны. Свае работы прэзентуе на выставах у Беларусі і за мяжой сваёй краіны. Карціны мастака знаходзяцца ў прыватных калекцыях у Рэспубліцы Беларусь і ў замежжы.

Сабраных на вернісажы прывітаў гаспадар музея і арганізатар экспазіцыі, дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк, які звярнуў увагу на арыгінальныя матывы прац Аляксея Жарало. Мастак Данель Грамацкі паведаміў пра міжнародны пленэр у Старым Ляўкове, у якім прынялі ўдзел творцы з Польшчы, Беларусі і Латвіі.

— На выставе бачым нацюрморт, краявіды, партрэты. Абстрактныя работы выкананы сучаснай тэхнікай. Зараз жывапісцы шторaз радчэй дакладна адлюстроўваюць акружаючую іх рэчаіснасць, бо яе можна сфатаграфаваць. Цяпер мастакі стараюцца на карцінах паказваць свае думкі і эмоцыі і ўдала робіць гэта аўтар нашай выставы, — патлумачыў сабраным Данель Грамацкі. — Я з Аляксеем пазнаёміўся падчас пленэру і бачу, што ён чалавек уражлівы і адкрыты на рознае мастацтва. Аляксей разгортвае свае здольнасці і вядзе пошукі новага. Яго працы паўстаюць хутка, але ў кожнай з іх ёсць свая адметнасць, выконваюцца яны цікавымі тэхнікамі. Жывапіс Аляксея Жарало накіраваны перш за ўсё да ўражлівых людзей, якія патрапяць нерэалістычна аналізаваць акружаючы свет, з выкарыстаннем сваіх эмоцый.

У адкрыцці выставы і ў мастацкім пленэры прымаў удзел наш беларускі мастак з Гайнаўкі Віктар Кабац, якога зацікавіў абстрактны жывапіс мастака з Брэста.

— Абстрактнае мастацтва, гэта перш за ўсё крык душы і пераліванне на палатно сваіх эмоцый ад бачанага краявіду, ці нейкіх яго дэталяў. Я, напрыклад, раблю занатоўкі ў час пленэру, а пасля ствараю працы ў майстэрні, дзе выяўляю свае эмоцыі зафіксаваныя на прыродзе. Абстрактныя карціны Аляксея Жарало ствараюцца хутка, але ў іх ёсць глыбокая філасофія, бо на іх адлюстраваная чалавечая душа, роздумы мастака. Патрэбная адукацыя або хаця пэўная падрыхтоўка, каб магчы аналізаваць і ўспрымаць працы Аляксея. Карціны мастака з Брэста вельмі добрыя. У яго працах важную ролю выконваюць колеры, якімі жывапісец вельмі ўмела карыстаецца. Вядучым колерам у Аляксея Жарало з'яўляецца шэрасць, але карыстаецца ён таксама яскравымі фарбамі. Супастаўляючы іх, жывапісец атрымлівае на карцінах цікавыя рэзультаты, — гаварыў Віктар Кабац.

Аляксей Жарало сказаў у сваю чаргу:

— На кожнай карціне я хачу паказаць нейкія асаблівасці. Мае працы гэта адкрыванне новага ў наваколлі, дзе я ствараю, а раблю гэта ў розныя поры года. Стараюся карыстацца цікавымі кампазіцыямі. На працах паказваю прыроду, чалавека і іншыя матывы, якія мяне зацікавілі. Адыходжу ўжо ад алейных работ і найчасцей выконваю акрылавыя працы і яны жывыя. Калі я ў пленэры, стараюся знайсці там матывы, якія мяне зацікавілі б, але не раблю там занатовак, бо ў мяне добрая памяць. Свае работы выконваю ў майстэрні з прымяненнем пэндзляў. Абстрактнае мастацтва цікавае, калі мы ўдала выкарыстаем у ім колеры і гуляем кантрастамі. Вось на выставе прэзентуюцца мае працы з мінулага і навейшыя работы. Паказана тут прырода ў розныя поры года, нацюрморт, партрэты, прэзентуюцца іншыя работы. Я магу назваць загалоўкі выбраных маіх карцін — «Замаразкі», «Галалёд», «Коннікі»... Часта стараюся паказаць на карцінах тое, што praмінае, каб яно засталося ў нашай памяці.

На вернісаж прыбыў войт Нараўчанскай гміны Мікалай Павільч, які заапекаваўся прыбылымі ў яго гміну на міжнародны пленэр мастакамі.

— Я вельмі рады, што мастацкія пленэры ладзяцца ў нашай гміне. У выніку ствараюцца мастацкія працы, на якіх адлюстравана наша прырода. Пасля пленэру працы прэзентуюцца ў нашай гміне, з іх ствараецца таксама экспазіцыя ў Галерэі Тамары Саланевіч, — сказаў войт Мікалай Павільч.

Камісар пленэру Данель Грамацкі дадаў, што вялікая частка прац паўстане ў Ляўкове, якое славіцца керамічнай фабрыкай, з гліны.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**


Аляксей Жарало (спераду, з рэкламным матэрыялам у руках) і ўдзельнікі мастацкага пленэру з Ляўкова ў музеі

# Карцінкі з глыбінкі (2)



Фрагмент панадворка ў Левашах

Зыгмунт Глогер: „Po pogromie Jadźwingów dokonanym przez Leszka Czarnego, Mazurzy gromadnie kolonizowali Podlasie, a rozpraszając się i dalej na wschód i południe po ziemiach Rusi, wsiąkali szybko w jej żywioł miejscowy. Ciekawy tego przykład znalazłem w pamiętniku domowym Sasinów Kaleczyckich z wieku XVI. Oto Zygmunt I nadał r. 1524 Sasinowi, szlachcicowi mazowieckiemu, w województwie Brzeskim włość Kaleczyce, (od której Sasinowie przybrali nazwisko Kaleczyckich). Sasin, osiedlony na Rusi litewskiej synowi swemu daje już imię ruskie Siemen, a wnuka ma Wasila Kaleczyckiego. Ciż fundują w Kaleczycach cerkiew obrządku wschodniego, której tam pierwej nie było, i odbudowują drugą cerkiew we wsi Rohaczach. Rodowici Mazurzy cerkwie te hojnie uposażają, modlą się w nich, chrzczą swe dzieci i grzebią swoje ciała. Pod rok 1624 Wasil wnuk Sasina zapisuje po polsku: »Przebudowałem cerkiew rohacką i wszystko odnowiłem i aparata posprawiałem«, a dalej zleca synom swoim: Janowi, Danielowi, Andrzejowi i Stanisławowi, aby go gdy umrze, pochowali obok żony w cerkwi kaleczyckiej”. Згаданыя Калечычы, гэта сённяшнія Сасіны, што ў Боцькаўскай гміне. А вось згадка, што ў 1624 годзе царква ў Рагачах патрабавала рамонту, сведчыць пра тое, што яна ўжо на той час моцна ўстарэла, калі патрабавала перабудовы, што яна пастаўлена там намнога раней.

Тапаграфія Рагачоў наводзіць меркаванне, што гэтая мясцовасць магла прадбачвацца для закладкі горада. Перад царквой абшырны пляц, з якога выходзіць некалькі дарог-вуліц і які мог бы выконваць ролю гарадскога рынку. Рагачы знаходзіліся ж у паласе камунікацый, якія спалучалі Кракаў і Вільню, а рух між гэтымі сталіцамі буйнеў у ягелонскую эпоху і патрабаваў этапных пунктаў...

У ранейшым адрэзку згадвалася прозвішча рагачоўскага настаяцеля Васіля Харламповіча. У 1870 годзе ў яго нарадзіўся сын Канстанцін, у спелыя гады выдатны даследчык даўніны Вялікага Княства Літоўскага. Займаўся ён галоўным чынам даследаваннем рэлігійных працэсаў, якія ў эпоху Рэфармацыі бурлілі ў Рэчы Паспалітай. Вось, для прыкладу, ягоная ацэнка асветніцкай дзейнасці езуітаў: „Прыбыццё ў польска-літоўскую дзяржаву езуітаў мала паўплывала на развіццё тамашніх прыхадскіх школ; яны развіваюцца тымі ж тэмпамі, што і раней да часу шведскіх, казацкіх і маскоўскіх войнаў. Заснавальнікамі іх па-ранейшаму былі каралі, епіскапы, літоўска-рускія магнаты і шляхта. Асабліва многа школ заснавалі магнаты — Радзівілы, Сапегі, Хадкевічы, Заслаўскія... Прадстаўнікі гэтых і іншых знатных родаў, перацягнутыя езуітамі ў лацінства, быццам стараліся засведчыць сваю руплівасць да новай веры закладкай лацінскіх манастыроў, касцёлаў, школ. Езуіты амаль не турбаваліся адукацыяй народных мас і заснаваннем прыхадскіх школ. Езуіты намагаліся галоўным чынам прыцягнуць да свайго ордэна людзей уплывовых у дзяржаве, таму яны заснаўвалі свае школы ў тых мясцовасцях, дзе кантынгент навучэнцаў складаўся б з дзяцей арыстакратыі, шляхты, гараджан. Несумненна, ордэн езуітаў самім сваім з'яўленнем у краіне і заснаваннем школ павысіў у ёй адукацыю так каталіцкую, як і іншаверную, падштурхнуўшы праваслаўных і пратэстантаў заснаваць і трымаць прыстойны ўзровень навучання ў сваіх школах, якія маглі б супрацьстаяць місіянерскім поспехам езуіцкіх вучылішч. Але яны стараліся таксама тармазіць усякую іншую адукацыю. Менавіта дзякуючы захадам езуітаў былі зачынены кальвінскія школы ў Нясвіжы і Вільні ды праваслаўная ў Пінску”.

Энцыклапедыя Брокхаўза і Эфрана: „Харлампович (Константин Васильевич, род. в 1870 г.) — историк церкви, преподаватель Казанской духовной семинарии и приват-доцент Казанского университета, сын священника; образование получил в Литовской дух. семинарии и СПб. дух. акад. Кроме магистерской диссертации: „Западно-русские православные школы XVI и начала XVII в., отношение их к инославным, религиозное обучение в них и заслуги их в деле защиты православной веры и церкви” [з гэтай кнігі прыведзеная цытата], X. напечатал: „К истории западно-русского просвещения. Виленская братская школа в первые полвека ее существования” (Вильна, 1897); „Острожская православная школа. Историко-критический очерк” (Киев, 1897); „Западно-русские церковные братства и их просветительная деятельность в конце XVI и начале XVII в.” (СПб., 1899)...”.

Пройдзе каля двух дзесяткаў гадоў з выпуску пералічаных галоўных твораў ураджэнца Рагачоў, калі ўладу ў Расіі захопяць бальшавікі. Для іх напрамак навуковай дзейнасці Харламповіча незапатрабаваны. У 1924 годзе яго арыштоўваюць, годам пазней адпраўляюць з Казані ў ссылку ў Арэнбург і Тургай, што ў Казахстане. Забараняюць яму сяліцца ў вялікіх гарадах і ён у 1928 годзе пасяляецца ў Нежыне, што ў Чарнігаўскай вобласці, дзе ад душэўнай ды матэрыяльнай роспачы і памірае ў 1932 годзе.

З Рагачоў адпраўляюся ў напрамку Левашоў. На адным з панадворкаў пажылая жанчына папраўляе клумбу. Пабачыўшы мяне цікавіцца, ці я часам не з'яўляюся геадэзістам і не разглядаюся за трасіроўкай дарогі ў напрамку Рагачоў. Бо тая дарога разбітая і па ёй нявыгадна ездзіць аўтамабілямі ейным дзецям, калі на лета прыязджаюць з горада да яе ў водпуск. Войт, а ў Мілейчычах на гэтай пасадзе жанчына, усё абяцае, што тую дарогу адрамантуе, але нічога не робіць. Я крышку жартую, што гэта не можа быць праўдай, бо жанчыны наогул працавітыя, не тое што мужчыны, якія сядзяць за рагачоўскай крамай... Але жанчына настойвае на сваім нараканні, мабыць спадзяючыся, што я, чалавек звонку, спрычынюся да нейкага тамашняга дарожнага цуду. На дарозе, якая асабліва блізкая маёй суразмоўніцы, ёсць масток, які ўжо ледзь трымаецца, і гміна яго не рамантуе, спасылаючыся на нястачу грошай; страх па ім ездзіць. Калі я звяртаю ўвагу, што ёсць іншая дарога ў Рагачы, на якой масток салідны, жанчына кідае мне аргумент, што тую дарогу ўзімку засыпае снегам...

Людзі пастаянна дакараюць уладу, што яна або нічога не робіць, або дзейнічае няправільна. Вось амаль два з паловай стагоддзяў таму французскія філосафы дакарадзі расійскую царыцу Кацярыну, што яна няправільна кіруе дзяржавай. Яна ж лічыла, што калі б яна іх паслухала, то трэба было б перавярнуць дзяржаву дагары нагамі, паліквідаваць заканадаўства, фінансы, урад і замяніць іх нездзяйсняльнымі летуценнямі. Славутаму энцыклапедысту Дэні Дзідро гаварыла так: „Я з вялікай радасцю выслухала ўсё тое, на што навёў вас ваш бліскучы розум, аднак вашымі высокімі ідэямі вельмі добра напаўняць кнігі, але вельмі дрэнна паводле іх дзейнічаць. Вы працуеце на паперы, якая ўсё сцярпіць: яна гладкая, мяккая і не робіць замінак ні вашаму ўяўленню, ні пяру вашаму. А я ў той жа час маю дачыненне да спраў звычайных смяротнікаў, якія вельмі ўражлівыя і далікатныя”. Пасля такой заўвагі славуты філосаф перастаў гаварыць царыцы пра палітыку, засяродзіўшыся толькі на літаратуры...

І мая суразмоўніца наракае на ўладу, што зараз на вёсцы нічога няма, усё гібее. Толькі дзікоў кругом поўна. Вось, бывала, абсаджвала яна бульбай палетак, што недалёка чыгункі, збіраючы з яго па трыста мяшкоў. А ў мінулым годзе не сабрала нават бульбінкі — усё вырылі дзікі.

Гаспадарчыя працэсы, якія пайшлі ў нас пасля рыначных рэформаў, мяняюць не толькі гаспадарчае жыццё, але і прыроду. Пакіданне апрацоўкі зямлі ды пасадкі лесу ўводзяць змены ў шырокі прыродны і грамадскі ландшафт. Дзікоў прыбывае, але скарачаецца тэрыторыя, на якой могуць выжыць буслы. У суседніх з Левашамі Баравіках уласнік панадворка, мабыць ужо гарадскі, абсталяваў на стадоле буслоў, выразаных з бляхі...



Традыцыя і сучаснасць у народным дэкоры

Змяніўся таксама краявід недалёкага чыгуначнага прыпынку, які таксама названы Баравікамі. Няма ўжо станцыйнага будынка, па ім асталася зарослая рэдкім, але даўно ўкаранелым зеллем, падсыпка. Перончыкі ў абодвух напрамках голыя — няма нават дзе прысесці. У сухое надвор'е можна чакаць прыбыцця поезда ў такой жа „пачакальні”, што і ў дагістарычны час — апусціўшыся на рэдкую перонную расліннасць. А ў час дажджу? Не асталося нічога, што магло б служыць элементарнай бытавой выгадзе магчымага пасажыра...

Затое інфармацыйная выгада на прыпынку Баравікі — еўрапейская. Лініі на пероне, за якімі трэба чакаць поезда — бетонныя, з укапаных у грунт колішніх слупоў нізкавольтнай электралініі, памаляваных на яркі жоўты колер. Пераход цераз пуці вызначаны пастаўленымі ў даўні час жалезнымі бар'еркамі — каб карыстальнік прыпынку ведаў, як правільна трэба па ім хадзіць; але карыстальнікі і так ходзяць па-свойму, мінаючы тыя бар'еркі... Да ўсяго гэтага на адным са слупоў, задуманых для асвятляльных электралямп, прычэплены інфармацыйны стэнд з паведамленнямі. Ёсць там элементарныя абвесткі, напрыклад, пра правы і абавязкі падарожнікаў, пра працэдуру хадайнічання за загубленымі ў цягніку рэчамі, ёсць нумар інфармацыйнай лініі...

Але ёсць там і нечаканасць. На пазбаўленым усялякіх бытавых выгад прыпынку вісіць расклад курсіравання праязджаючых там цягнікоў — расклад гэты разлічаны на падарожніка з шырокага геаграфічнага абсягу. Інфармацыі на ім апісаны на польскай, англійскай, БЕЛАРУСКАЙ і расійскай мовах. Не ведаю, ці ў тытульнай беларускай дзяржаве прадбачана на чыгуначных прыпынках беларуская мова — не ўдалося мне дагэтуль пакарыстацца тамашняй чыгункай. А ў нас, у Польшчы, на парадкі ў якой так часта можна пачуць нараканні, здараюцца вельмі прыемныя нечаканасці. Пастаўшчыком інфармацыі на нашы тутэйшыя прыпынкі з'яўляецца беластоцкае аддзяленне Рэгіянальных перавозаў і вялікая ад мяне пашана ягонай інфармацыйнай службе.

*(працяг будзе)*

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**



# Уладзімір Клімюк

**Уладзімір Клімюк — адзін са старэйшых жыхароў вёскі Плянта Нараўчанскай гміны. Яму больш за дзевяноста гадоў. Ён непарыўна звязаны з „Нівай" ад пачатку яе існавання. Шмат гадоў працаваў на чыгунцы. Быў культурна-асветным работнікам — кіраваў працай чыгуначнай святліцы ў Плянце. У яго нялёгкі жыццёвы і працоўны шлях.**

9 мая гэтага года ў прыгожай адраматаванай святліцы ў Плянце адбылася сустрэча жыхароў Плянты, Міклашэва, Новага Ляўкова і Сушчага Барка з Уладзімірам Клімюком. Ён добра ведае мінулае Плянты і бліжэйшых ваколіц. Ён — „жывая гісторыя". Запісвае важнейшыя падзеі з сваёй вёсцы. Друкаваў свае ўспаміны ў гміннай газеце „Над Нараўкай". На сустрэчу са спадаром Уладзімірам прыйшло пару дзесяткаў зацікаўленых людзей.

На працягу шматлікіх гадоў Уладзімір Клімюк пісаў допісы ў „Ніву". Апошнім ад яго быў „Ліст з Плянты" („Ніва" № 23 ад 6 чэрвеня 2010 года), у якім пісаў: „Вялікі дзякуй за альбом з вершамі Міры Лукшы „Жывінкі з глыбінкі"(...). Наведаў мяне Янка Целушэцкі і ўручыў мне падарунак як аднаму з найстарэйшых падпісчыкаў „Нівы" і былому карэспандэнту. „Ніву" я чытаю ад першага нумара ў 1956 годзе. (...) Янка, ты найбліжэй нас тут жывеш — ты не пасядзіш у хаце, усё ў дарозе — на ровары, у аўтобусе ці пешшу. Ты апісваеш нашу Нараўчанскую гміну, Гайнаўскі і Беластоцкі паветы, сам Беласток, Міхалоўскую гміну, вербуеш многа чытачоў тыднёвіку „Ніва". Будзь заўжды бадзёрым і маладым, заступаючыся за ўсіх — ад малога дзіцяці да старых людзей, якім неабходная дапамога іншага чалавека(...)".

Я даволі часта наведваю сціплага спадара Уладзіміра і яго жонку Зою ў іх доме. Ён пастаянны падпісчык „Нівы" і чытае яе дакладна. Тэлефануе да мяне ў розных справах. Ранняй вясной мінулага года паказаў мне старыя здымкі і крыху расказаў пра мінулае Плянты. У 1939-1944 гадах у Плянце пражывала 118 дарослых і 179 дзяцей. На прымусовую працу ў Германію былі вывезены пятнаццаць чалавек, з якіх адтуль не ўсе вярнуліся дадому. Параіў — калі гэта мяне цікавіць — больш даведацца яшчэ ад іншых жыхароў Плянты: Валянціны Самойлік ды Мікалая і Пятра Конікаў.

Я напісаў артыкул „Мінулае Плянты" („Ніва" № 15 ад 14.04.2013). Пры ім ёсць здымак прыгожага вакзала станцыі Нараўка (які ён быў у верасні 1941 года). Той мураваны двухпавярховы вакзальны будынак і воданапорную вежу акупанты зруйнавалі 70 гадоў таму, калі адступалі ў 1944 годзе.

Пасля вайны ў Плянце паставілі барак, які меў 42 метры даўжыні і 12 метраў шырыні. Былі ў ім пачакальня для пасажыраў, працоўныя пакоі дзяжурнага руху і касіра, які прадаваў білеты, буфет і даволі прасторная святліца. Святліцу доўгія гады паспяхова вёў руплівец Уладзімір Клімюк.

Зараз цераз Плянту не ездзяць пасажырскія паязды. Няма ніякага вакзальнага будынка. Ужо разабралі некаторыя пуці. На месцы пасляваеннага доўгага барака выраслі дрэвы і кустоўе. Усё заглухла, адышло. Быццам тут нічога і не было. У мясцовых людзей жывыя яшчэ толькі ўспаміны.

9 мая г.г. на вечарыне пры каве, гарбаце і шакаладных цукерках Уладзімір Клімюк цікава расказаў пра мінулае Плянты, у тым і пра часы Другой сусветнай вайны ды свой побыт у нямецкім канцлагеры ў Тыльзіце ў 1943 годзе, пра вызваленне вёскі і яе пасляваенную адбудову. У яго вельмі добрая памяць. У перапынку з выбранымі прыгожымі беларускімі, рускімі (м.інш. былі ў рэпертуары спевака „Катюша" і „Тёмная ночь") ды польскімі вершамі і песнямі выступіў таленавіты спявак Янка Шыманюк з Семяноўкі. Ён расчуліў імі госця да слёз. Асабліва песнямі з часоў вайны (Янка Шыманюк знакаміты дэкламатар і спявак прымеркаваў іх да Дня перамогі над фашызмам 9 мая 1945 года). Госць і жанчыны са звонкімі галасамі таксама яму падпявалі. Усе прысутныя праспявалі выдатнаму расказчыку „Многія лета". У зале панавала прыемная, чуллівая, сардэчная атмасфера.

Падчас сустрэчы можна было пагледзець архіўныя фотаздымкі людзей ды даваеннага вакзала ў Плянце. Была падрыхтавана насценгазета з артыкуламі пра Плянту Уладзіміра Клімюка і Янкі Целушэцкага, якія былі надрукаваны ў штотыднёвіку „Ніва" і штоквартальніку „Над Нараўкай", які дваццаць гадоў таму заснаваў Янка Целушэцкі.

Удзельнікам вечарыны важна было пачуць спадара Валодзю, яго звонкі голас і цікавы аповед. Хто б іншы мог яго замяніць? А ўсё пачалося з таго, што аўтар гэтага артыкула ў пачатку красавіка расказаў пра сваю задуму дырэктарцы Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы Галене Рэент (яна, хаця коратка на сваёй пасадзе — усяго дзесяць месяцаў, але ўжо многа зрабіла на нараўчанскай гміннай культурнай ніве), актыўнаму радному Нараўчанскай гміны Янку Драўноўскаму з Міклашэва і солтысу Плянты Аляксею Врублеўскаму. Яны адобрылі мой намер і мы назначылі дзень сустрэчы на 9 мая. Напярэдадні мерапрыемства дырэктар ГАК перажывала і непакоілася, ці хаця прыйдуць жыхары Плянты. Тэлефанавала да мяне з працы. Я рыхтаваў і развешваў аб'явы і паведамляў знаёмых, між іншым, Аляксандра і Люцыну Зданоўскіх, Янку Зданоўскага, Мікалая Коніка, Галіну Бірыцкую ды Ніну і Юрыя Ляткоўскіх з Плянты, а таксама Альжбету і Яўгена Сухадолу з Сушчага Барка.

Сустрэча атрымалася надзвычай удалай, людная. На заканчэнне яе радны Янка Драўноўскі (ён гасцінны і кампанейскі чалавек ды добры арганізатар) падрыхтаваў пачастунак. Уладзімір Клімюк быў узрушаны такім зацікаўленнем, прыёмам і такой пашанай аднасяльчан і ўсіх іншых асоб да яго асобы. Ён усім шчыра дзякаваў. Сказаў, што да яго тэлефанавала журналістка Радыё Рацыя, каб узяць інтэрв'ю для папулярнай штонядзельнай радыёперадачы „З Падляшша родам". Ён не згадзіўся і сказаў, што зараз у дрэнным настроі і што найперш хоча ведаць, як яго будуць слухаць падчас сустрэчы ў святліцы ў Плянце.

12 мая г.г. Уладзімір Клімюк пазваніў мне вечарам і паведаміў, што ўсё ж згадзіўся на сустрэчу з рэдактаркай Аннай Шайкоўскай, якая прыедзе да яго ў сераду, 14 мая. Ён мне сказаў: "Пасля ўдалай вечарыны я паверыў, што яшчэ ў сіле даць інтэрв'ю. Лічу вас маім самым лепшым сябрам. Дзякуй вялікае вам, Янка, за незабыўную вечарыну. Мне ніколі не паверылася б, што могуць быць яшчэ такія цудоўныя хвіліны ў маім жыцці".

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**




Больш за дзесяць гадоў паміж Беларуссю і Польшчай існуе візавы рэжым. Пры гэтым межы абедзвюх краін у працілеглыя адзін ад другога бакі практычна не існуюць — на захад ад Польшчы можна ехаць не прад'яўляючы пашпарта гэтаксама як і на ўсход ад Беларусі.

Наяўнасць віз сама па сабе, канешне, не можа быць непераадольнай перашкодай для перасячэння мяжы, бо практычна кожны можа тую візу атрымаць. Але калі паглядзець на вялізную чаргу каля польскага консульства ў Мінску і магчымасць для прайдзісветаў нядрэнна падзарабіць на продажы месц у ёй, то прыходзіш да высновы, што візы — гэта далёка не самае лепшае, што рэгулюе рух паміж краінамі.

Таму не дзіўна, што ў Беларусі існуе цэлая грамадзянская ініцыятыва, якая выступае за адмену візавага рэжыму не толькі з Польшчай, але і з Еўрасаюзам цалкам. Каб больш дэталёва пазнаёміцца з гэтай кампаніяй, трэба зазірнуць на яе сайт „У Беларусь і Еўропу без віз", які месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://www.novisa.by**.

Даны сайт выглядае неяк вельмі анімацыйна — дзве птушкі, якія, пэўна, сімвалізуюць пералёты з адной краіны ў другую, рухаюцца па выяўленню. Вочы ў іх сумныя, бо цешыцца з жыцця не даюць візы.

Будова сайта даволі арыгінальная. Тут калі і ёсць дзяленне на нейкія часткі, то хутчэй гарызантальнае. І першай там стаіць рубрыка „Хто мы" з пералікам назваў падрубрык. „Грамадская кампанія «У Беларусь і Еўропу — без віз!»" (скарочана «Без візы») была распачатая ў 2011 г. Кампанія «Без візы» імкнецца прасоўваць ідэю адмены віз паміж Беларуссю і іншымі еўрапейскімі краінамі. На наш погляд, візавы рэжым ёсць інструментам, які кепска зарэкамендаваў сябе ў барацьбе з нелегальнай міграцыяй і арганізаванай злачыннасцю, а вось роднасныя, эканамічныя, культурныя і іншыя кантакты абмяжоўвае вельмі паспяхова. Мы верым, што рана ці позна кожны беларус атрымае магчымасць беспераШкодна перасякаць мяжу дзеля паездак у суседнія еўрапейскія краіны. Мы лічым, што людская мабільнасць і адкрытасць дзяржавы спрыяе развіццю грамадства, распаўсюду еўрапейскіх каштоўнасцяў і практыкаў, што ў рэшце рэшт паляпшае жыццё кожнага", — распавядаецца ў падрубрыцы „Кампанія без візы".

Пра тое, як на карысць кампаніі працуюць рэкрутаваныя валанцёры, расказваецца ў падрубрыцы „Валанцёры «Без візы»". Згодна пададзенай інфармацыі, дзякуючы ім пра кампанію змагла даведацца большая колькасць людзей, бо былі праведзеныя розныя фестывалі, канцэрты, дыскусіі і кінапрагляды. На старонцы „Што мы робім" цікаўны карыстальнік інтэрнэту можа прачытаць пра асаблівасць дзейнасці кампаніі.

На галоўнай старонцы сайта таксама месціцца цікавае анімацыйнае выяўленне, дзе пазначаны нейкія дні бяздзейнасці. Каб зразумець, аб якой бяздзейнасці мова, трэба клікнуць на гэтае выяўленне. Згодна размешчанаму там тэксту, мінула больш за 900 дзён з моманту, калі Еўракамісія запрасіла Беларусь распачаць перамовы аб спрашчэнні візавага рэжыму і толькі ў лютым гэтага года такія перамовы распачаліся.

Цікавай падаецца і падрубрыка „Навіны", што знаходзіцца ў рубрыцы „Актуальна", дзе ёсць магчымасць даведацца аб апошніх зменах у візавых рэаліях, звязаных з Беларуссю.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з календара

Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара



Аўтар народных песень

110 гадоў з дня нараджэння

# Адама Русака

Беларускі паэт Адам Русак нарадзіўся 24 траўня 1904 г. у вёсцы Пясочнае каля Капыля. Яго бацькі валодалі яскравымі здольнасцямі. Маці спявала, бацька быў цудоўным скрыпачом, сам змайстраваў скрыпку, стварыў у вёсцы капэлу, якая выступала на вяселлях, вечарынках, гулянках. Менавіта там Адам атрымаў першую „адукацыю". У 1914 г. ён скончыў Песачанскую пачатковую школу. Працаваў на гаспадарцы. У 1922 г. пешшу выправіўся ў сталіцу, паступіў у Мінскі будаўнічы тэхнікум, але тэхнік з яго не атрымаўся. У хуткім часе пакінуў вучобу.

У 1925-1930 гг. вучыўся ў Мінскім музычным тэхнікуме, граў у сімфанічным аркестры Беларускага радыё і адначасна служыў музыкантам у Чырвонай Арміі. Пазней у 1930-1934 гг. вучыўся ў Ленінградскай кансерваторыі па класе скрыпкі і валторны. У той жа час з 1932 г. і пасля заканчэння кансерваторыі працаваў салістам аркестра Ленінградскага малога акадэмічнага тэатра оперы і балета. У 1942-1944 гг. разам з тэатрам быў эвакуяваны ў Арэнбург. З 1949 г. працаваў салістам аркестра Белдзяржфілармоніі. У 1959 г. пайшоў на пенсію.

Першы верш Адама Русака „Мая песня" быў апублікаваны 27 траўня 1927 г. у часопісе „Чырвоны сейбіт". Больш рэгулярна пачаў друкавацца з 1932 г. у часопісах „Полымя рэвалюцыі", газетах „Звязда", „Літаратура і мастацтва". У 1940 г. быў падрыхтаваны да друку першы яго зборнік „На родных палетках", але вайна перашкодзіла яго выданню, таму ён пабачыў свет толькі ў 1946 г.

Адам Русак — аўтар зборнікаў паэзіі „Песні і вершы", „Пад голас баяна", „Толькі з табою", „Звонкія крыніцы", „Закрасуйся, Нёман", „Песні на словы А. Русака", „Засцілайце сталы", „Песні радасці" і іншых. Русак таксама пісаў для дзяцей, выдаў кнігі „У Буслаўцы", „Добра ведаю ўрок".

У пачатку творчага шляху Русак не ставіў за мэту пісаць песні, але кампазітары самі звярталі ўвагу на яго вершы, ствараючы да іх музыку. Паступова ён стаў прафесійным паэтам-песеннікам. Шырокую вядомасць і папулярнасць набылі многія песні (усяго каля 300) на тэксты яго вершаў: „Толькі з табою" і „Не шукай" (музыка Ісака Любана), „Лясная песня" і „Па-над лесам, па-над борам" (Уладзіміра Алоўнікава), „Дняпро" і „Не за вочы чорныя" (Юрыя Семянякі), „Узнялося сонца яснае" (Дзмітрыя Лукаса), „Дзе ты, зорка мая" (Ігара Лучанка) і іншыя.

Песні застаюцца паэтам намнога больш даўгавечнымі помнікамі, чым іхныя проста вершы. Памяць Адаму Русаку забяспечылі многія творы, але найперш знакамітая песня „Бывайце здаровы" (музыка Ісака Любана), якая па сутнасці стала народнай, візітоўкай беларусаў сучаснасці, па-ранейшаму гучыць як у прэстыжных залах, такі і за святочнымі сталамі. Першай „Бывайце здаровы" выканала Ларыса Александроўская, пазней яе спявалі многія знакамітасці, у ліку якіх Леанід Уцёсаў. Словы неаднаразова перарабляліся і перакладаліся на розныя мовы. Неразгаданая таямніца музычнага даўгалецця аўтара ўражвае і сёння. У нашы дні песню бліскуча выконвае Зміцер Вайцюшкевіч.

Памяць пра Адама Русака ўшанавана. У вёсцы Пясочнае і хутары Малінаўка на Капыльшчыне створаны адмысловы музей паэта-песенніка.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Чаромхаўскі аповед (11)

Аднавіць падзеі шматгадовай даўнасці — справа складаная. Папрасіў я затым свайго аўтарытэтнага расказчыка Янку Шабалоўскага, каб папоўніў аповед перыяду васьмідзесятых гадоў, калі савецкія афіцэры будавалі ў блёку рускую саўну.

— Пабудовай рускай лазні ў жылым блёку, — канстатуе Янка Шабалоўскі, — займаўся капітан Сашка Замяцін. Ён замяшчаў камандзіра Казарэза. Быў гэта здольны афіцэр. Меў усе якасці, каб быць старшым афіцэрам, але ў Чаромсе звання маёра не мог атрымаць. Па загадзе начальства адкамандзіравалі яго ў Варшаву, пасля паслалі ў Ленінград у ваеннае вучылішча. Гэта было пры канцы службы ў Чаромсе маёра Казарэза, значыцца на зломе 1980/1981 гадоў (*у апошняй частцы „Чаромхаўскага аповеду (10)” дапусціў я памылку, напісаўшы, што маёр Генадзій Казарэз развітаўся з Чаромхай на зломе 1985/1986 гадоў. За памылку прашу прабачэння — аўтар*). — Памятаю, што ў красавіку 1980 года я браў шлюб, — працягвае Янка Шабалоўскі. — Казарэз афармляў мне справу спіртнога. У гэтым часе з СССР у ГДР транзітам штомесячна праз Чаромху праходзілі цыстэрны са спіртам для медычных мэт. ЗКУшнікі ў дамове з аглядчыкамі вагонаў, савецкім і польскім, вылучалі цыстэрну са спіртам быццам па прычыне „тэхнічных недахопаў” і кіравалі ў вагоннае дэпо для рамонту. Цыстэрна заставалася без аховы праз некалькі дзён. Доступ да грузу мелі адно ЗКУушнікі. Мне тады Казарэз з шафёрам прывезлі на машыне дзве бочкі чыстага спірту па сто літраў кожная. Абяспечыў я тады вяселле ды хапіла яшчэ на некалькі месяцаў. Гэтым жа спіртам карысталіся многія чыгуначнікі. Па рэкамендацыі Генадзія я пазнаёміўся з прапаршчыкамі вартаўнічай службы. Гэтыя апрача спіртнога дастаўлялі мне кансервы ды іншыя рэчы. Падвал у блёку быў шчыльна загружаны свінымі тушонкамі ды рыбай. Часам нават сабака не хацеў гэтага есці. Харчовыя прадукты з СССР у ГДР пасылалі поўнымі саставамі як „воінскі груз”. Па дамове я выходзіў на ўрочышча „Каганка” за пасёлак і чакаў на абочыне цягніка. Калі гэты падыходзіў, з вагона выкідалі адну-дзве ўпакоўкі кансерваў, па дзвесце-трыста банак у адной упакоўцы. Я грузіў іх на машыну і падаваўся дамоў.

Хоць крытыя вагоны з прадуктамі ды спіртное ў цыстэрнах знаходзіліся пад адмысловымі пломбамі з вайсковымі знакамі, для прапаршчыкаў не было праблем парушыць іх. Мелі яны ў запасе новыя пломбы з такімі ж знакамі, якія пасля парушэння пасылкі падмянялі. А ў ГДР ніхто нястачы не прыкмячаў. Зрэшты, рускія салдаты, якія карысталіся чыгуначным транспартам, былі майстрамі ў парушанні пасылак. З ГДР у СССР транзітам праз Чаромху перавозілі рознага віду тавары, ад галантарэі і трыкатажных вырабаў, па касметыку, крышталь, біжутэрыю, не лічыўшы алкагольных напіткаў. Дасведчыў я гэтага працуючы агентам у канторы перадачы. Бывала, заходзіў транзіт у Чаромху з каштоўным грузам з непарушанымі пломбамі, што засведчылі вартаўнікі СОК і прыёмны агент, а пры здачы савецкі агент выяўляў парушэнне пломбы. Вагон трэба было выключаць са складу пад рампу для праверкі. Пасля кладаўшчык, правяраючы разам з мытнікам, выяўлялі бракі. Пачаткова прычына бракаў была невядомая, але пасля выявілася, што зладзеямі былі салдаты з мяжуючага з транзітам вайсковага цягніка. Асноўнай хібай было тое, што транзітныя дакументы з названнем грузу не былі забяспечаны. Знаходзіліся яны ў машыніста цягніка, які забіраў транзітны склад ад пагранічнай станцыі Жэпін, а здаваў у Чаромсе. Да дакументаў мелі свабодны доступ чыгуначнікі паасобных станцый, праз якія праходзіў маршрутны транзіт. І ў гэтым чыгуначныя службы дагледзеліся асноўнай заганы.

*(працяг будзе)*

**Уладзімір СІДАРУК**







1 ☞ працяг

# Свята царкоўнай музыкі

гарыі. З 1998 года хорам СШ № 66 займаецца Елена Лацапнева, выпускніца Беларускай дзяржаўнай музычнай акадэміі па класе харавое дырыжыраванне. З ліку іншых хароў трэцяе месца заняў хор «Артас» з Львова (Украіна), а вылучэнне атрымаў хор «Разанаў» з Дзюрдзева (Сербія), які дзейнічае з 1996 года.

— Мы ў галоўным спяваем у карпата-рускай традыцыі паўднёваславянскіх русінаў, — патлумачыла адна з сербскіх харыстак.

Цудоўна, на высокім мастацкім узроўні выступіў і заняў першае месца ў катэгорыі акадэмічных хароў Камерны хор «Crescendo» Мастацкага аддзялення Дзяржаўнага ўніверсітэта ў Крывым Рагу (Украіна), які дзейнічае ажно з 1967 года. З 2002 года хорам кіруе Вікторыя Бандарэнка, якая стараецца падтрымліваць традыцыі адэскай харавой школы. У 2007 годзе хор «Crescendo» заняў другое месца на гайнаўскім фестывалі і можа пахваліцца перамогамі на іншых фестывалях. Другога месца журы фестывалю, якое ўзначаліў мітрафорны протаіерэй Лявонцій Тафілюк, у катэгорыі акадэмічных хароў не прызначыла, а трэцяе месца заняў хор Вышэйшай школы сацыяльнай псіхалогіі ў Варшаве. Узнагароду Гран-пры гайнаўскага фестывалю атрымаў хор Музычнай кансерваторыі з Казані (Расія), удзельнікі якога перш за ўсё зрабілі стаўку на віртуознасць спеву.

— Мы шчаслівыя, што можам выступіць сярод іншых хароў, якія выконваюць музыку на высокім узроўні, — заявіў дыпламатычна Уладзіслаў Лук'янаў, дырыжор хору з Казані, які дзейнічае ажно з 1947 года і на міжнародных сцэнах прадстаўляе Рэспубліку Татарстан. Хор паспяхова выступаў, між іншым, на міжнародных фестывалях у Германіі, Італіі, Эстоніі.

Падчас гайнаўскага фестывалю, які ладзяць Грамадскі арганізацыйны камітэт, Аб'яднанне «Любіцелі царкоўнай музыкі» і Гайнаўскі дом культуры (дапамагалі ў арганізацыі Свята-Троіцкі прыход і маладзёжнае брацтва, што дзейнічае пры ім), у ніжняй царкве Свята-Троіцкага сабора можна было паглядзець цікавую выставу «Ікона — копія — крыжыкам з нітак пісаная». 13 мая ў Гайнаўскім доме культуры можна было паслухаць суправаджаючых музычнае мерапрыемства дакладаў.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

# Адгаданка

## Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. даўгавухі конепадобны = 4 _ 10 _ 12 _ 11 _;
2. хімічны элемент н-р 53 = 7 _ 8 _;
3. Тамаш, філамат (1796-1855) = 13 _ 22 _ 1 _;
4. уладар Алімпа = 3 _ 2 _ 5 _ 6 _;
5. чыгуначная лінія = 15 _ 24 _ 25 _ 26 _;
6. ядомы пласціністы грыб з рыжай шапачкай = 16 _ 14 _ 23 _ 9 _ 21 _;
7. вялікая неядавітая змяя = 20 _ 19 _ 17 _ 18 _.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | 2 |
| 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| | | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |

**Адказ на адгаданку з 17 нумара**

Ведзьма, вяз, дыяліз, мім, шуба.

Рашэнне: **Баязліваму і мыш мядзведзь**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** з Беластока і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 25.05 — 31.05

**(22.03. — 20.04.)** Увесь гэты тыдзень прадвяшчае поспехі ў зносінах і новыя знаёмствы. Шмат жыццёвых сіл, маса актыўнасці і энергіі. Магчымае невялікае падарожжа або дзелавая паездка. Каханне можа цябе змяніць вельмі моцна. Справы памалу рушаць уперад, зловіш вецер у свае ветразі.

**(21.04. — 21.05.)** 26-30.05. дасканалы час на падпісванне дамоў, здабыванне саюзнікаў, пошукі падтрымкі. Дагаворышся нават з тымі, з кім не было раней супольнай гаворкі. Нагоды для падзаработкаў. 29.05. вернуцца старыя нагоды, адкрыюцца новыя магчымасці, у любові такія лады як ты хочаш. Будзеш мець тое, на чым табе залежыць.

**(22.05. — 22.06.)** Моц і добрая форма. Знакамітае чуццё ў інтарэсах, прабойная сіла, пільнасць у спалучэнні з ігрой уласнымі козырамі могуць завесці цябе на вяршыню. Фантыстычныя вандроўкі з сябрамі (могуць цябе пасватаць!).

**(23.06. — 23.07.)** Добрая воля і рашучасць. Дасканала дагаворышся з людзьмі, якія для цябе будуць гатовы шмат зрабіць. Матывіруючыя сяброўствы. Крыху будзеш санлівы, але хутка зрэгенеруешся. Будзеш мець прыхільнасць высокапастаўленых людзей. Каб атрымаць перавагу ў якой-небудзь справе, стаць лідарам, утрымаць заваяваныя пазіцыі або набыць абарону ад нядобразычліўцаў, майце пры сабе невялікі чорны мяшочак, напоўнены гарошынамі чорнага перцу, лік якіх павінен быць няцотны. Можаш таксама нанізаць чорныя гарошыны на чырвоную нітку: атрымаюцца магічныя каралі, якія трэба насіць на запясці левай рукі або на костцы левай нагі.

**(24.07. — 23.08.)** Добра пойдзе табе ў інтарэсах, дагаворышся з іншымі, аформіш з імі кожную справу; дасі сабе рады і ў адзіночку. Паправяцца твае лады з кіраўніцтвам. Але з 29.05. можаш быць крыху разгублены ды меланхалічны.

**(24.08. — 23.09.)** Зоркі праціраюць табе шлях на вяршыню! Дадумаешся, як дзейнічаць, каб табе было выгадна. Але хтосьці на працы можа выявіць шэфу твае грашкі (27-31.05.). Сцішэнне эмоцый, але і няшчырасць, круцельствы і падман у пачуццях. Не падазравай усяго і ўсіх! Выберыся ў падарожжа.

**(24.09. — 23.10.)** Пакажаш усім, што ты зможаш! Пераможаш перашкоды. Будзеш заўзяты! Падымешся з фінансавай ямкі. Але, усё ж, лепш ашчаджвай. У бізнесменаў наперадзе незвычайна ўдалыя дагаворы і здзелкі, а работнікі на акладзе могуць разлічваць на павышэнне гэтага самага акладу або на прэмію. Усе знаёмствы і паездкі будуць паспяховымі ў панядзелак. Верагоднае дасягненне вялікага поспеху ў розных дзелавых аперацыях. Акупяцца многія фінансавыя ўкладанні.

**(24.10. — 22.11.)** Не ўсе справы пойдуць згодна з тваёй думкай. 25-29.05. не выйдзеш добра слухаючы парад сяброў. Але будзеш акружаны людзьмі, усё штосьці будзе дзеяцца, а ты ўцячэш перад нудой і маразмам. Не траць сілаў на рэчы, што прыносяць марныя вынікі. Гатуйся да вялікага скоку!

**(23.11. — 22.12.)** 25-26.05. твае справы рушаць уперад, будзеш трывалы, таленавіты, возьмеш на сябе больш чым заўсёды. Маеш усе шанцы мець падтрымку калег і кіраўніцтва. Стартуй з новым праектам ці фірмай. У фінансах таксама можа табе пашчасціцца, можаш добра забяспечыцца на старасць!

**(23.12. — 20.01.)** Можаш не справіцца з абавязкамі. У кампаніі таксама будзе цяжка з тваімі капрызамі і прыхамацямі. Затое можаш паспяхова сесці на дыету, пазбыцца нямогласцей, якія турбавалі цябе здаўна. Казярогам, працуючым на сваім, справы абернуцца на іх карысць, а маруднае рушыць з капыта.

**(21.01. — 19.02.)** Многа сустрэч у кампаніі. Зноў наблізішся да свайго аўтарытэту. Але можа дакучаць табе страўнік. Ды ўдадуцца візіты ў касметолага, а нават... пластычная аперацыя! 25-26.05. уладуцца планаваныя дзеянні так як ты спадзяваўся, можаш цяпер пачаць новыя мерапрыемствы.

**(20.02. — 21.03.)** Без цяжкасці ўдасца табе аформіць важную справу. Але не шукай працы 27-31 мая — абяцанняў не выканаюць, асабліва ў плане грошай (увесь месяц з імі ў цябе крыху горш чым заўсёды). І не купляй нічога большага, бо набудзеш барахло, нават калі яно добра выглядае на вока.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня:** Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet:** *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail:** *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня:** „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00]. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2014 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# У бляску Эль Грэка

— Гэта цуд, — з недаверам абвясціла У.

Вось нечакана, з ходу, заехалі мы пад дзверы Малой галерэі, дзе адбываўся міжнародны вернісаж пад загалоўкам „У бляску Эль Грэка".

У нас не было карты горада Седльцы, ні джыпіэс-навігатара, ці хаця б асноўнай знаёмасці горада. Праўда, вялікае значэнне мела для нас назва вуліцы і характар установы. Мы рашылі трапіць у цэнтр і там ужо распытаць у людзей пра вуліцу Сянкевіча...

Цудоўная выпадковасць не развязвае языка, хутчэй адбірае мову.

Таму, у цішы і аўры сакрэтнасці, не верыўшы да канца ў камунікацыйны поспех, мы пераступілі парог культурнай установы... У парозе прывітаў нас узрадаваны мастак Алесь Пушкін. На *добры дзень* ён павёў нас на другі паверх, каб пахваліцца сваім навейшым творам. Мы спыніліся перад яго карцінай са святым у чырвонай рызе, ды перажылі чарговы цуд і адначасова шок. Чалавек часам ведае больш чым ведае!

— Едучы ў Седльцы, я доўга думаў кага маляваць, — патлумачыў Алесь. — Хацеў спалучыць Падляшша і Беларусь. Ну і атрымаўся Ежы Папялушка. Заступнік усіх, хто змагаецца за свабоду.

Культ святога з нашых Акопаў летась дайшоў у Беларусь. Месца, у якім велічаюць легендарнага капелана „Салідарнасці" важнае ў духоўным і турыстычным сэнсе для беларусаў. Адмысловы куток знаходзіцца ў старажытным касцёле ў Камаях, на поўначы краіны. Якраз Алесь Пушкін афармляў прыдзел святому родам з Падляшша. У час асвячэння, ён перадаў падарунак з Акопаў — медаль з выявай Ежы Папялушкі, выкаваны напярэдадні кананізацыі. Паколькі выпала мне роля пасрэдніка ў перадачы дару, сённяшні абраз явіўся радасным дапаўненнем міжнароднай і экуменічнай місіі.

Папраўдзе, гэтай цудоўнай выпадковасці было ўжо зашмат як на пачатак. Мы не прызналіся Пушкіну, што ў дарозе густа і часта ўспаміналі Ежы Папялушку, што „збіраліся" ў госці да яго сваякоў у падляшскія Акопы, дзе абажаюць Радыё Рацыя!



Алесь Пушкін і яго Ежы Папялушка

* * *

Трэба пачаць з таго, што ў Седльцы трапілі мы дзякуючы карціне Эль Грэка „Экстаз святога Францішка". Гэта самы вялікі скарб павета, гонар Польшчы, аздоба горада Седльцы. Бягучы год абвешчаны Міжнародным годам грэчаска-іспанскага мастака. Якраз у рамках глабальнага святкавання ў Седльцах таксама наладзілі міжнародны пленэр пад красамоўным лозунгам „У бляску Эль Грэка". Сярод замежных гасцей, што прыемна ўразіла, найбольш мастакоў прыехала з Беларусі, у тым ліку славутыя майстры Аляксей Марачкін, Алесь Пушкін, Генадзь Драздоў... За свае незалежніцка-патрыятычныя погляды іх не паказваюць на Радзіме.

— Мы сапхнуты ў мастацкае падполле. Для нас няма месца ў сучасным афіцыйным мастацтве, — скажуць з нотай горычы...

Нота горычы і пераследу якраз вельмі дарэчы ў кантэксце Эль Грэка. Мастак не дачакаў славы і багацця пры жыцці. Сваёй творчасцю апярэдзіў час на тры стагоддзі. Заядла крытыкаваны сваімі сучаснікамі, стаў узорам і натхненнем для мастацтва XX ст. Яго карцінамі натхнялі-ся, між іншым, Пікасо і Далі.



Карціны Генадзя Драздова



Беларускія мастакі: (справа) Алесь Пушкін, Аляксей Марачкін, Аксана Гайдукевіч, Кацярына Паўляк.

Пакуль цяжка адназначна сказаць якім шляхам абраз Эль Грэка трапіў у Польшчу. Яго адкрыццё даследчыкі мастацтва называюць цудам. Карціна была прызначана на знішчэнне. Выратавалі яе дзве маладыя працаўніцы Польскага інстытута мастацтва Ізабела Галіцкая і Ганна Сегетынская, якія ў 1964 годзе прыехалі на плябанію ў Косаў-Ляцкі зрабіць спісак карцін і помнікаў культуры. „Святы Францішак" з першага погляду падаўся ім арыгіналам. Увагу прыкаваў аўтограф — як вядома, іспанскі мастак падпісваў свае творы грэчаскім шрыфтам. Праўда, паверыць у знаходку было не проста. У бок даследчыц пасыпаліся словы крытыкі і абурэння. Аднак час і дакладная экспертыза навялі карэктуру. Арыгінальнасць знаходкі пацвердзілі сусветныя аўтарытэты мастацтвазнаўства.

Зараз косаўскі „Святы Францішак" як магніт прыцягвае айчынных і замежных наведвальнікаў. З 2004 года карціна аздабляе Дыяцэзіяльны музей у Седльцах.

* * *

Анна Сахацкая, віцэ-прэзідэнт горада Седльцы, з якой пазнаёміліся мы яшчэ да адкрыцця вернісажу, ледзь не выцалавала нас на прывітанне... Усё з-за сентыменту да роднай старонкі. Пані прэзідэнт з гонарам насіла пад пахай падараваную ёй „Ніву".

— Я сама з-за Буга, усходняя душа, — сказала пра сябе.

Хоць у Седльцах пражывае ўжо сорак гадоў, родная Супрасль увесь час жыве ў яе эмоцыях і памяці. Некалькі хвілін да нашай сустрэчы яна гаварыла па тэлефоне з сястрой Крысцінай з Супраслі. Пра здароўе гаварылі...

Спадарыня прэзідэнт прыйшла на вернісаж не толькі з патрэбы сэрца. Магістрат рэальна падтрымлівае мастакоў з усходніх краін. Пасля пленэру горад скупляе шмат карцін, якіх пасля не сорам падарыць найлепшым госцям.

— Наш партнёрскі горад у Беларусі — гэта Ваўкавыск. Мы рэгулярна сустракаемся ў час святкаванняў, запрашаем да сябе беларускія калектывы. Калі гаварыць пра ўдзел мастакоў у падобных пленэрах, дык гэта дваццаць гадоў сяброўства. Мы разумеем адзін аднаго без слоў, — адзначае спадарыня прэзідэнт, — мы проста блізкія народы.

Разуменне беларускай асаблівасці вынесла яна з роднай Супраслі.

— Сярод маіх сяброў палова праваслаўных. Мы сустракаемся па сённяшні дзень.

З асаблівай увагай спадарыня прэзідэнт успамінае епіскапа Мірана, якога называе сваім сябрам...

Гарачы настрой добрасуседства падбіў яшчэ Сяргей Каваленка. Славуты экс-палітвязень зараз студэнт па праграме Каліноўскага. Ён вывучае ў Седльцах кіраванне. На вернісаж прыйшоў з сябрамі-каліноўцамі...

— Тутэйшыя мазаване зусім як беларусы, — сцвярджае Сяргей. — У гербе Седльцаў нават наша Пагоня...

*(працяг будзе)*

**Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960